**СОНЦА:**

Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 7.07, 16.39, 9.32;
Віцебск — 7.01, 16.26, 9.25;
Магілёў — 6.56, 16.29, 9.33;
Гомель — 6.51, 16.28, 9.37;
Гродна — 7.23, 16.53, 9.30;
Брэст — 7.18, 17.00, 9.42.

**МЕСЯЦ:**

Маладзік 25 кастрычніка

Імяніны

Андрэя, Антона, Кузьмы, Дзям'яна, Лявонція, Лазара.




# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 2 рублі

31 КАСТРЫЧНІКА 1992 г.
субота, №№ 221—222
(21999—22000)






◆ Чытаеш гутарку з Нілам Гілевічам і пачынаеш думаць, што ў кожнага сапраўднага паэта ёсць дар прадбачання. І, шукаючы душэўнай раўнавагі, хапаешся за яго словы: «Чалавек не можа ўвесь час жыць адной палітыкай, адным змаганнем. Чалавек на зямлі — носьбіт дабрыні, любові, спагады і чуласці, і адмяніць яго прыродную патрэбу ў гэтым не зможа ніякі, нават самы суровы і жорсткі час».
Слова Паэта дае нам надзею.

2-я стар.

◆ «Ад непераможнай і легендарнай саюзнай арміі нам засталася няпростая спадчына. І таму не будзем больш ківаць на мінулае. На абломках старога будынка ўзродзіцца новы. І вельмі шкада, што адбываецца гэта не так, як бы нам хацелася. Маці пасылаюць сыноў абараняць Радзіму, а генералы і палкоўнікі прымушаюць іх будаваць гаражы і дачы, сем'і маладых афіцэраў распадаюцца з-за бытавога неўладкавання, а «вялікія» начальнікі шыкуюць у камфартабельных катэджах...

2—4-я стар.

◆ «У восеньскую маркоту і ціхае задуменне турботным пульсам часу настойліва стукае таемнае слова «Дзяды». І замаўляе: стрэнь, народзе беларускі, сваіх, каб не згінуць. Каб не змагла цябе ані ліхая бяда Чарнобыля, ані крывавая расправа Курапат» («Малітва да Дзядоў»).

◆ Каго прадстаўляе Беларускае пасольства ў Маскве?

3-я стар.

◆ Цяжка сказаць, што такое карупцыя. Кожны разумее яе, як гаворыцца, у меру сваёй разбэшчанасці. Салідны дзяржаўны чыноўнік, які проста «пасадзейнічаў» продажу эшалона нафты, канешне, не згодзен з тым, што ён украў.
◆ Як у Мазыры чыгунку прадавалі.
◆ «Цяжка паверыць, што Аляксандр, які любіць музыку, з вялікай пяшчотай даглядае катоў і сабак, у той жа час здольны з неймавернай жорсткасцю катаваць самага дарагога чалавека» («Сыны-забойцы»).

4-я стар.

◆ «Цэлыя арміі місіянераў з Карэйскага паўвострава пакінулі родную краіну і акупіравалі тое, што яшчэ ўчора было еўрапейскай часткай СССР. Узнікае пытанне: чаму выратаванне чалавецтва трэба пачынаць менавіта з Мінска? Хіба ў іншых месцах няма грэшнікаў?» («Судны дзень у карэйскім варыянце не адбыўся. Пачакаем індыйскага?»)
◆ «Як правіла, адно толькі пасіўнае жаданне здароўю не падмога. Іншы раз сваім няверʼем хворы стрымлівае ход выздараўлення» («У кожнага свой крыж»).

6-я стар.

Смейцеся на здароўе! «Смехатэрапія» дае багаты матэрыял для гэтага.

8-я стар.

# РОЗГАЛАС

## ЯШЧЭ ЁСЦЬ ЧАС: ВЕРЦЕ Ў «ЗВЯЗДУ»!

1 лістапада павінна была закончыцца падпіска на перыядычныя выданні. Але, як паведаміла начальнік аддзела распаўсюджвання друку прадпрыемства «Мінская пошта» Аляксандра Чарняк, па просьбе некаторых выданняў падпіска на іх прадоўжана да 15 лістапада. У гэты пералік трапіла і газета «Звязда».

Такім чынам, у вас ёсць яшчэ 16 дзён, каб падумаць і прыняць рашэнне. І тады з 1 студзеня 1993 года ў вашу кватэру ўвойдзе верны сябар — штодзённая беларуская газета «Звязда». Кошт падпіскі на паўгода — 120 рублёў.

## УЗНАГАРОДЫ — ДАСТОЙНЫМ

29 кастрычніка вялікай групе грамадзян рэспублікі былі ўручаны Ганаровыя граматы і Граматы Вярхоўнага Савета Беларусі за поспехі ў працоўнай і грамадскай дзейнасці, ганаровыя званні заслужаных дзеячаў Рэспублікі Беларусь.

Так, звання «Народны мастак Беларусі» быў удастоены скульптар Леў Гумілеўскі. Званне «Народны артыст Беларусі» атрымаў акцёр Дзяржаўнага тэатра юнага гледача Віктар Лебедзеў. Звання «Заслужаны дзеяч навукі» ўдастоены рэктар Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута Аляксей Кубарка.

— Але асаблівую гордасць я адчуваю, уручаючы вышэйшую ўзнагароду рэспублікі — медаль Францыска Скарыны, — заявіў С. Шушкевіч,—Яўгену Скурко (Максіму Танку) — паэту, вершамі якога зачытваўся ў школе.

Медалём Францыска Скарыны былі таксама ўзнагароджаны пісьменнікі Янка Брыль і Цімафей Крысько (Васіль Вітка), вучоны Акадэміі навук Беларусі Генадзь Каханоўскі, мастак Аляксей Марачкін і іншыя.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, (БЕЛІНФАРМ).**

## КАМУНІСТЫ: НА ПЕРШЫ-ДРУГІ РАЗЛІЧЫСЯ!

КАПЫЛЬ. Адбыліся арганізацыйныя сходы Бабаўлянскай і Смаліцкай арганізацый Партыі камуністаў Беларусі. На партыйны ўлік тут сталі адпаведна 14 і 12 чалавек. Самаму маладому з іх — 28, самаму старому—89 гадоў.

На сходах абмеркаваны рашэнні XX Усесаюзнай канферэнцыі КПСС і яе праграмная заява «За сацыялізм, за саюз народаў, за адзінства камуністаў».

Сакратарамі пярвічных арганізацый ПКБ выбраны: у Бабоўні—Э. Тамашэўскі, у Смалічах —І. Бабко. На сходах абмеркаваны таксама кандыдатуры членаў райкома ПКБ ад гэтых арганізацый.

## ДОБРЫ ВЕЧАР ТАБЕ, «ВЕЧЕРНИЙ МИНСК»!

**Юбілей у наш час — рэч, хоць і прыемная, але трывожная. Асабліва газеты. Чытач можа не ведаць аб тых цяжкасцях, якія пераадольвае калектыў рэдакцыі. Ён чакае сумленнай размовы, мужнасці, аб'ектыўнасці. І знаходзіць усё гэта на старонках «Вечернего Минска», якому спаўняецца 25 гадоў.**

**Жадаем нашым калегам, шматлікім аўтарам «Вечеркі» паранейшаму радаваць сваіх чытачоў, быць для іх добрым дарадцам, сябрам і абаронцам. Тады ніякія штормы сучаснасці не страшныя, бо наперадзе — жыццё і новыя юбілеі. 50, 75, 100...**

## БЕЛАРУСАЎ У СЕЙМЕ НЕ БУДЗЕ

Як паведамлялася раней, чатыры прадстаўнікі беларускіх арганізацый былі вылучаны кандыдатамі ў новы сейм Літвы. Але, як сказалі нам у Цэнтральнай выбарчай камісіі, ніводзін з іх не прайшоў у другі тур.

**Андрэй КОРСАК, (БелаПАН).**

Вільня.

## ВЫВАД ВОЙСК ПРЫПЫНЯЕЦЦА

**Учора атрымана паведамленне, што Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Барыс Ельцын прыняў рашэнне аб прыпыненні вываду расійскіх вайсковых фарміраванняў з краін Балтыі да падпісання міждзяржаўных дагавораў паміж Расіяй і Латвіяй, Эстоніяй і Літвой.**

**Т. ОРСА.**

## СВЯТКАВАННЕ ДЗЯДОЎ

**2 лістапада, у афіцыяльна святкуемы дзень памінання продкаў — Дзяды, — Управа БНФ сумесна з Фондам культуры свае мерапрыемствы пачне а 12-й гадзіне ля будынка КДБ з асвячэння капліцы па загінуўшых у сталінскіх засценках, потым а 14-й гадзіне ў Курапатах адбудзецца «Гадзіна смутку», а ў 19 гадзін ў Доме літаратара пройдзе вечарына, прысвечаная Дзядам.**

**Зміцер ЖДАНЮК.**

НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## МОЖА, БУДЗЕ КРЫШАЧКУ ЛЯГЧЭЙ

З 1 студзеня 1993 года ў Беларусі будуць праіндэксаваны таксама грашовыя ўклады ва ўстановах дзяржаўнай крэдытна-фінансавай сістэмы і зберажэнні насельніцтва, укладзеныя ў аблігацыі дзяржаўных пазык.

Такое рашэнне прынята 29 кастрычніка на вячэрнім пасяджэнні парламента, дзе былі ўнесены змяненні і дапаўненні ў Закон «Аб індэксацыі даходаў насельніцтва ў сувязі з інфляцыяй».

Даволі гладка праходзілі абмеркаванні ў другім чытанні праекта Закона «Аб дзяржаўных дапамогах сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей». Яго прадставіў старшыня Камісіі па справах сям'і і моладзі Пётр Міцько.

Эксперты лічаць, што, згодна з гэтым праектам, дапамогай будзе ахоплена прыкладна 70 працэнтаў сем'яў, якія маюць дзяцей.

30 кастрычніка пачалося абмеркаванне пытання аб невыкананні ўрадам Закона «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь».

З інфармацыяй па гэтаму пытанню выступіў намеснік Старшыні Савета Міністраў Сяргей Лінг.

Сесія перапыніла сваю работу да аўторка.

## ДА МАЮЧАГА АДБЫЦЦА ВІЗІТУ



3 лістапада г. г. у Мінск з трохдзённым візітам прыбывае старшыня Нацыянальнага савета Федэральнага сходу Швейцарыі Ханс-Рудольф Небікер. Ханс-Рудольф Небікер нарадзіўся 10 кастрычніка 1929 года ў г. Лісталь.

Па адукацыі інжынер-аграном.

Член Швейцарскай народнай партыі, у 1979—1984 гг. з'яўляўся яе старшынёй.

У 1963—1975 гг. уваходзіў у састаў камунальнага ўрада г. Пратэльн. З 1975 г. выбіраецца дэпутатам Нацыянальнага савета Федэральнага сходу, у 1985—1989 гг. узначальваў парламенцкую фракцыю сваёй партыі, 25 лістапада 1991 г. на першай сесіі парламента новага склікання выбраны старшынёй Нацыянальнага савета на 1992 год.

Уваходзіў у састаў розных парламенцкіх камісій. З'яўляецца саўладальнікам і генеральным дырэктарам сельскагаспадарчай кансультатыўнай фірмы «Х. Небікер АГ», г. Зісах.

Жанаты, мае 6 дзяцей. Свабодны час прысвячае чытанню, верхавой яздзе, лыжнаму спорту, садаводству.

### *Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*

## АБ САЦЫЯЛЬНАЙ ПАДТРЫМЦЫ НАСЕЛЬНІЦТВА Ў СУВЯЗІ З ПРАДАЎЖЭННЕМ РОСТУ РОЗНІЧНЫХ ЦЭН НА ТАВАРЫ І ПАСЛУГІ

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Выходзячы з зацверджанай пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 20 кастрычніка 1992 г. мінімальнай заработнай платы ў памеры 2.000 рублёў у месяц:

1. 1. Устанавіць з 1 лістапада 1992 г. тарыфную стаўку першага разраду 2.200 рублёў у месяц і пакласці яе ў аснову адзінай тарыфнай сеткі рабочых і служачых народнай гаспадаркі;

1. 2. Дзяржаўнаму камітэту па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва па ўзгадненню з Міністэрствам фінансаў і з удзелам зацікаўленых міністэрстваў і ведамстваў у дзесяцідзённы тэрмін:

унесці пры неабходнасці змяненні ў тарыфікацыю асобных прафесіянальна - кваліфікацыйных груп работнікаў, а таксама ў памеры каэфіцыентаў, прадугледжаных пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 24 верасня 1992 г. № 587;

перагледзець памеры стыпендый і дапамог;

1. 3. Міністэрству сацыяльнага забеспячэння зрабіць пералік пенсій.

2 Кіраўнікам міністэрстваў, ведамстваў, выканкомаў мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, фінансуемых з бюджэту, забяспечыць пералік ставак і акладаў работнікаў у адпаведнасці з устаноўленай стаўкай першага разраду і міжразраднымі каэфіцыентам адзінай тарыфнай сеткі.

3. Павялічыць з 1 лістапада 1992 г. штогадовую грашовую кампенсацыю расходаў на транспартнае абслугоўванне, што выплачваецца інвалідам Айчыннай вайны I групы, якія не маюць права па медыцынскіх паказаннях на бясплатнае забеспячэнне легкавым аўтамабілем «Запарожац», а таксама інвалідам Айчыннай вайны, якія маюць права па медыцынскіх паказаннях на бясплатнае атрыманне аўтамабіля «Запарожац», але не атрымалі яго або купілі аўтамабіль іншай маркі без уліку кошту належачага бясплатна аўтамабіля «Запарожац», з 5.000 да 10.000 рублёў.

4. Павялічыць з 1 лістапада 1992 г. штогадовую грашовую кампенсацыю расходаў на бензін, рамонт, тэхнічнае абслугоўванне аўтамабіляў і матакалясак і запасныя часткі да іх:

інвалідам Айчыннай вайны і іншым інвалідам з ліку ваеннаслужачых, якія атрымалі згодна з дзеючым заканадаўствам бясплатна аўтамабіль «Запарожац», з 2.500 да 5.000 рублёў;

інвалідам Айчыннай вайны і іншым інвалідам з ліку ваеннаслужачых, якія маюць згодна з дзеючым заканадаўствам права на бясплатнае атрыманне аўтамабіля «Запарожац» або матакаляскі, але набылі аўтамабіль іншай маркі з залічэннем кошту аўтамабіля «Запарожац», з 2.500 да 5.000 рублёў;

(Заканчэнне на 7-й стар.).

### *Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

**Аб Старшыні Канстытуцыйнай камісіі**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Вызваліць Дзямянцея Мікалая Іванавіча па яго просьбе ад абавязкаў Старшыні Канстытуцыйнай камісіі.

2. Выбраць Старшынёй Канстытуцыйнай камісіі Шушкевіча Станіслава Станіслававіча — Старшыню Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

28 кастрычніка 1992 г. г. Мінск.

### *Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

**Аб інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь аб становішчы ў эканоміцы і мерах па яе стабілізацыі**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Прыняць да ведама інфармацыю Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Кебіча В. Ф. аб становішчы ў эканоміцы і мерах па яе стабілізацыі.

2. Даручыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь разгледзець крытычныя заўвагі і прапановы народных дэпутатаў, выказаныя ў камісіях і на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пры абмеркаванні гэтага пытання, прыняць па іх адпаведныя рашэнні і аб ходзе іх рэалізацыі інфармаваць пастаянныя камісіі і народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

22 кастрычніка 1992 г. г. Мінск.

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на газету 63850 (індэкс выдання)

«ЗВЯЗДА» Колькасць камплектаў

на 1993 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА

ПВ | месца | літар

на газету 63850 (індэкс выдання)

«ЗВЯЗДА»

| Кошт | падпіскі | ___руб.___кап. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ___руб.___кап. | |

на 1993 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

## ІНТЭРВ'Ю З САМІМ САБОЙ

**1. ПЫТАННЕ:** Чым газета «Звязда» адрозніваецца ад «Спортлато»?

**АДКАЗ:** Ніводзін з чытачоў «Звязды» не застаецца ў пройгрышы.

**2. ПЫТАННЕ:** Як працей за ўсё адкласці 120 рублёў на паўгадавую падпіску на «Звязду»?

**АДКАЗ:** Узяць 130 рублёў, на 10 купіць хлеба, а на тое, што застанецца, падпісацца на «Звязду».

**3. ПЫТАННЕ:** Што лепш: займацца ўласным бізнесам або чытаць «Звязду»?

**АДКАЗ:** Займацца бізнесам так, як раіць «Звязда»!

**4. ПЫТАННЕ:** Ці можна параўнаць «Звязду» з Ашчадным банкам?

**АДКАЗ:** Канешне. Хаця б у лічбах. За адзін год знаходжання вашых грошай у Ашчадбанку на звычайным укладзе вы атрымаеце не так многа працэнтаў гадавых, а за арганізацыю падпіскі на «Звязду» вам, калі вы працуеце ў сістэме «Саюздруку», належыць 5 працэнтаў ад сумы арганізаванай вамі падпіскі. Затое ўсяго за паўгода.

**5. ПЫТАННЕ:** Што агульнага паміж газетай «Звязда» і тэлегульнёй «Што? Дзе? Калі?»?

**АДКАЗ:** І там і тут правільныя адказы даюцца на пераважную большасць чытацкіх пытанняў.




ДА КАНЦА ПАДПІСКІ ЗАСТАЛОСЯ 16 ДЗЁН. ІНДЭКС «ЗВЯЗДЫ» — 63850, ПАДПІСНАЯ ЦАНА НА ПАЎГОДА — 120 РУБЛЁЎ.

ЗА ПАРЛАМЕНЦКАЙ КУЛІСАЙ

# Паэт—прадстаўнік нашых хворых душ на зямлі

**Калі наглядаць за ім з балкона прэсы падчас работы сесіі, то ўражанне такое, што гэта шмат чаму навучаны жыццём чалавек, а таму ўдала хавае тое, што робіцца ў душы. Надзвычай спакойны твар, удумлівыя вочы, і толькі хіба адна постаць, напятая, як струна, выдае пастаяннае нежартоўнае напружанне. Не хочацца, шкадуючы, чапаць Ніла Сымонавіча ў дні суцэльных дэбатаў. Але ў мінулы панядзелак пасяджэння не было, дэпутаты працавалі хто ў камісіях, хто паехаў дамоў (прабачце, да выбаршчыкаў), і мы змаглі крыху пагаварыць. Часу расседжвацца не было: з ранку Гілевіч як член Прэзідыума прымаў наведвальнікаў, пасля абеду ўсіх старшынь камісій сабраў Станіслаў Шушкевіч, потым яму трэба было ехаць на кінастудыю.**

**— Ніл Сымонавіч, па дарозе да Вас паслухаў я пікетчыкаў пад вокнамі Вярхоўнага Савета, перачытаў яшчэ раз іх лозунгі. У гэтых людзей, якія прадстаўляюць частку грамадства, свой погляд на парламент. Абсалютна канкрэтны — «у адстаўку». А як лічыце Вы, чалавек, якому многія прывыклі давяраць? Калі ўжо на тое, то ці ёсць у цяперашняга Вярхоўнага Савета здабыткі, якія могуць пайсці яму ў «залік»? Напрыклад, незалежныя назіральнікі (каб жа толькі не сурочыць) называюць галоўнай заслугай Вярхоўнага Савета і ўрада тое, што ўдаецца захаваць нацыянальную (і міжнацыянальную) згоду.**

— Я сказаў бы, што Вярхоўны Савет Беларусі працуе не так дрэнна, як думаюць—мяркуючы і па друку—многія нашы грамадзяне. Распрацаваны і прыняты дзесяткі законаў і заканадаўчых актаў, якія нарэшце павінны адрэгуляваць эканамічнае, сацыяльнае, палітычнае і культурнае жыццё рэспублікі. Над дзесяткамі новых законаў і пастаноў работа працягваецца.

Вы можаце спытаць, чаму ж ў такім разе ўсё горш ідуць у дзяржаве справы? Чаму ўсё больш і больш падае ўзровень жыцця? А таму, што старыя, ранейшыя асновы эканамічна-сацыяльнага ладу расхістаны, а новыя не створаны, не ўгрунтаваны. Мы ўжо досыць доўгі час «гуляем у жмуркі»— нешта ловім з завязанымі вачыма. Не сказаўшы сабе і народу галоўнага: чаго мы хочам? Які лад збіраемся будаваць? Яшчэ зусім нядаўна нас арыентавалі на «сацыялістычны выбар». Дык што — рынак на сацыялістычных асновах? Ах, усё-такі на капіталістычных? Ці, можа, на яшчэ якіх-небудзь? На так званых постіндустрыяльных? Толькі цяпер, абмяркоўваючы праект Канстытуцыі, мы нарэшце загаварылі без «жмурак», нарэшце вымушаны паставіць пытанне рубам: якую эканамічна-сацыяльную фармацыю і які грамадска-палітычны лад мы хочам у сваёй краіне мець? Дагэтуль жа, не вызначыўшы галоўнага, пачалі вызначаць прыватнае — прымаць паасобныя законы і пастановы, пазбаўленыя агульнага грунту.

Захаванне нацыянальнай згоды на Беларусі, вядома ж, падтрымліваецца палітыкай Вярхоўнага Савета і ўрада рэспублікі, але галоўная заслуга, думаю, належыць тут самому народу, які дзякуючы сваёй прыроднай дабрыні і спагадлівасці ўмее жыць у згодзе і дружбе з усімі «прапісанымі» ў нашым беларускім доме нацыянальнымі супольнасцямі. Толькі сітуацыя не такая простая, як некаторым здаецца, і яна можа рэзка абвастрыцца, калі ўрад будзе глядзець праз пальцы на пэўныя, вельмі трывожныя сімптомы.

Ужо даўно наш беларускі друк звяртае ўвагу грамадскасці на факты, якія не толькі супярэчаць законам суверэннай дзяржавы, але і абражаюць нацыянальную годнасць беларускага народа. Маю на ўвазе паводзіны былых акупантаў Заходняй Беларусі, былых польскіх асаднікаў і акаўцаў, якія наладжваюць сёння ўрачыстыя зборышчы і, памахваючы голымі шабелькамі, маршыруюць у ваеннай уніформе чужой дзяржавы на плошчах беларускіх гарадоў. А мясцовыя ўлады — яны нават і не ведаюць пра гэта (гл. «ЛіМ» за 23.X.92 г.). Гэтаксама бесцырымонна дзейнічаюць і многія польскія ксяндзы і самазваныя місіянеры, якія абвяшчаюць каталіцкі касцёл на Беларусі польскім, карыстаюцца ў храмах дзяржаўнымі сімваламі суседняй краіны, вядуць зусім не боскія, а яўна палітычныя гутаркі з вернікамі, займаюцца адкрыта прапольскай прапагандай і г. д.

Нам, нашай дзяржаве літаральна плююць у твар, а мы — цярпліва выціраемся і прабачлівым голасам шэпчам: нічога, не звяртайце ўвагі, гэта дожджык пырснуў. Ці, можа, такою цаною будзем плаціць за «нацыянальную згоду» — цаной вяртання да мінулага, да «крэсаў усходніх»? Бязмоўна і пакорліва адступаючы перад напорам цынічнага нахабства? Да якіх межаў адступаючы? Ці не пара ўраду схамянуцца і сказаць сваё слова? Ці ён не лічыць сябе абавязаным абараняць годнасць і аўтарытэт народа і дзяржавы?

**— Падзяляючы гэту Вашу заклапочанасць, я хацеў бы ўсё ж вярнуць Вас да свайго першага пытання: ці жыццяздольны сённяшні беларускі парламент? І што мы можам атрымаць, калі пойдзем «шчыльнымі радамі» на датэрміновыя выбары?**

— Лёс цяперашняга Вярхоўнага Савета, на мой погляд, у многім будзе залежаць ад вынікаў 10-й сесіі — ад таго, якія законы і пастановы яна прыме, у якой меры будзе заканадаўча забяспечана далейшае станаўленне незалежнай дзяржавы, наколькі мы прасунемся наперад па шляху стабілізацыі грамадства. Законапраекты, што разглядаюцца на сесіі, у вышэйшай ступені важныя, я сказаў бы, лёсавызначальныя для Беларусі. Ці змогуць дэпутаты прыйсці да згоды па галоўных эканамічных і палітычных пытаннях (ці хопіць у нас мудрасці на гэта), сёння сказаць цяжка.

Наконт выбараў... Вядома, было б лепш, каб сам Вярхоўны Савет прыняў рашэнне аб датэрміновых выбарах. (У чацвер такое рашэнне прынята.— **У. Х.**). Зразумела, на аснове новага выбарчага Закона і ў адпаведнасці з новай Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. Гэта дало б магчымасць пазбегнуць грамадству лішніх палітычных канфрантацый, а дзяржаве—лішніх шматмільённых выдаткаў. Але калі новая Канстытуцыя зможа ўступіць у дзеянне і якая яна будзе? Ніякіх гарантый, што нанова выбраны Вярхоўны Савет (ці Сойм) будзе больш дасканалым і больш працаздольным, чым цяперашні,— няма.

Гарантый няма, але спадзяванні ёсць. І спадзявацца хочацца. Асабліва калі паглядзіш, як пачуваюцца ў зале пасяджэнняў некаторыя дэпутаты з ліку тых, што лёгка перамаглі на выбарах. Напрыклад, як толькі на трыбуну падымаецца прадстаўнік апазіцыі і пачынае гаварыць у абарону нацыянальных інтарэсаў Беларусі — гаварыць шчыра, талкова, разумна,— тут жа адны зусім выходзяць з залы, другія бяруцца за газеты, трэція гучна, развязна гутараць з суседам і г. д. Даюць зразумець: нас гэта не цікавіць. Міжволі задумаешся: дык чые інтарэсы іх цікавяць? Выходзіць, у парламенце два розныя парламенты? Але ж гэта ненармальна!

**— Тады Вы мне скажыце, а які парламент, у чыёй краіне дэманструе адзінства? У далёкім замежжы дзе-нідзе нават за грудкі хапаюцца. А ў блізкім... Каб доўга не шукаць: на сесіі ў Расійскім Вярхоўным Савеце таксама горача. Кожны вечар па «скрыні» гэта бачым. Дарэчы, калі ўжо мы зачапілі тэму Расіі. Ці трэба нам па-ранейшаму моцна трымацца вялікага суседа? А можа, як некаторыя (у тым ліку народныя дэпутаты) кажуць, варта быць ад яго, такога непрадказальнага, далей?**

— Пытанне не дыскусійнае. І ў эканамічным, і ў палітычным, і ў культурным аспектах мы былі, ёсць і будзем побач з Расіяй, будзем самымі блізкімі суседзямі і партнёрамі. Само сабой зразумела — цяпер ужо абсалютна раўнапраўнымі, без ценю якога б там ні было дыктату з боку «большай сястры». Гэта вельмі выгадна для абодвух брацкіх народаў. Зрэшты, сказанае цалкам датычыць і нашых узаемаадносін з Украінай. Гісторыю не пераробіш, а яна за доўгія стагоддзі звязала нас моцна-моцна. Вазьміце адно такія сферы, як навука і культура: хіба мы зможам абысціся без велізарнейшага навуковага патэнцыялу Расіі? Або хіба мы зможам пачувацца эстэтычна забяспечанымі без яе вялікай мастацкай культуры? Я ўжо не кажу пра эканоміку — тут наогул усё звязана намёртва.

Так што браць курс на адданенне незалежнай Беларусі ад незалежнай Расіі — гэта або, выбачайце, дзіцячая наіўнасць, або — што намнога горш — палітычны авантурызм з вельмі нядобрымі наследкамі. Думаю, мудрасць і беларускіх, і расійскіх дзяржаўнікаў будзе ў тым, каб усебаковае супрацоўніцтва між нашымі краінамі забяспечыць самай шчырай таварыскай атмасферай — на грунце поўнага ўзаемадаверу, братняй узаемапавагі і любові. Так, так — і любові! Ці, можа, хто думае, што ў адносінах да суседа і крэўнага брата лепш распальваць нянавісць?

Іншая рэч, што сёння ў Расіі сітуацыя развіваецца сапраўды непрадказальна. Чым можа выбухнуць там крайняя сацыяльная і палітычная напружанасць — адзін Бог-бацька ведае. Ну, а калі выбухне — тады стане горача і нам. Усё па той жа прычыне: суседзі і браты, жывём побач.

**— Тут я Вас, як кажуць, і злавіў. «Суседзі і браты» — як стасуюцца з усім, што Вы толькі што сказалі, Вашы рэзка адмоўныя адносіны да перагляду Закона аб мовах і ўвядзення яшчэ адной дзяржаўнай мовы — рускай?**

— Не, Уладзімір Паўлавіч, не злавілі. Гэта ўсё ж розныя рэчы. Пераглядаць сёння Закон аб мовах і ўводзіць у якасці дзяржаўнай у Беларусі яшчэ адну — гэта самае горшае, што можа чакаць нас на шляхах нацыянальнага адраджэння. Гэта азначала б асудзіць беларускую мову на далейшы заняпад і, урэшце, на пагібель. А значыць — вынесці смяротны прысуд і ўсёй беларускай культуры, і самой беларускай нацыі, і нашай незалежнай дзяржаве. Ні пра якую нацыянальна-дзяржаўную будучыню Беларусі гаварыць у такім выпадку — калі загіне мова — проста няма сэнсу. А яна загіне, калі надаць правы дзяржаўнай і рускай мове. Руская не была ў нас дзяржаўнаю, і то мы бачым, як яна «прыдушыла» нашу родную, беларускую. А калі стане дзяржаўнай, дык і зусім дадушыць. Ды яшчэ ва ўмовах рынку, ва ўмовах агульнага заняпаду духоўнасці...

Няма межаў майму засмучэнню, што гэту элементарную ісціну не могуць зразумець дарослыя, ды яшчэ і з вышэйшай адукацыяй, людзі. Кажу не пра тых, хто з'яўляецца свядомым і перакана്ным праціўнікам нашай незалежнасці — яны разумеюць усё, у іх ніякіх сумненняў няма. Кажу пра людзей, якія добра думаюць пра Беларусь і зычаць ёй шчаслівай долі, але шчыра вераць, што жаданага дабрабыту мы дасягнем, не будучы самі сабой, страціўшы сваё ўласнае аблічча, перастаўшы быць народам. Вялікая-вялікая наша бяда, што так вытраўлена ў душах тысяч людзей пачуццё нацыянальнай годнасці, што яны не цягнуцца душой і сэрцам да роднага слова, не адухаўляюцца і не асвятляюцца радасцю, яго пачуўшы. Божа, колькі яшчэ ў нас наперадзе неймаверна цяжкай працы! Працы па адраджэнню саміх сябе...

**— У справе адраджэння беларускасці, вяртання да матчынай мовы Вы асабіста можаце куды больш за іншых. У старшыні Таварыства беларускай мовы ёсць яшчэ і свае магчымасці...**

— Яны далёка не бязмежныя. З часу свайго ўзнікнення Таварыства зрабіла вельмі многа карыснага. І ўсё ж сёння ў мяне моцнае пачуццё незадаволенасці агульным станам спраў у ТБМ. Галоўнае, што засмучае — амаль зусім прыпыніўся рост суполак на тэрыторыі рэспублікі. Сям-там аслабла садзейнічанне выкананню Закона аб мовах. Адна з прычын такога становішча— кволая дзейнасць Рэспубліканскай Рады, у склад якой трапіла няімала людзей выпадковых. З аднаго боку — чыноўнікі-функцыянеры, з другога — мітынгоўшчыкі-крыкуны, якія, насуперак статуту, хацелі б ператварыць ТБМ у палітычную арганізацыю. Як быццам у нас мала партый і нехта не дазваляе ім займацца палітычнай дзейнасцю ў партыях. Іх задача — палітызаваць работу Таварыства і гэтым самым адштурхнуць ад яго тых шчырых патрыётаў роднага слова, якім крыклівая мітынгоўшчына не па душы.

Некалькі дзён назад на добра падрыхтаванай Мінскай гарадской канферэнцыі ТБМ адзін звышактыўны мітынгоўшчык гучнагалосна заявіў: «Ніл Гілевіч нам здрадзіў!». Дзеячу не даспадобы, што я не пытаюся ў ягамосця і не ўзгадняю з ім, як мне галасаваць па тым ці іншым пытанні ў Вярхоўным Савеце. Такое ў гэтага архідэмакрата разуменне дэмакратыі і правоў чалавека. Між іншым, на месяц раней «дэмакраты» з другога крыла на мітынгу на плошчы Незалежнасці гэтак жа гучна крычалі ў натоўп: «Ніл Гілевіч — нацыяналіст! Не верце яму!». Так змыкаюцца «дэмакратычныя» крайнасці.

Іншы раз становіцца нават вельмі скрушна. І аднак жа я моцна веру ў добры пачатак у чалавеку і ў тое галоўнае, вызначальнае, чым вядомы ў свеце наш беларускі народ. Веру, што насуперак усяму яго добрая, шчырая душа не пераробіцца.

**Гутарыў Уладзімір ХІЛЬКЕВІЧ.**

ДА 110-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯКУБА КОЛАСА

## СЫН ЛЕСНІКА, БУНТАР, ПРАЗАРЛІВЫ ГЕНІЙ

**Папытайцеся ў самага недасведчанага чалавека, што ён ведае пра Беларусь, і той, не задумваючыся, адкажа: «Ну, гэта Янка Купала і Якуб Колас».**

**Не надта ўвогуле шануюць у нашай краіне паэтаў. І тым не менш менавіта як Паэт, які здолеў у сваёй творчасці стаць выказнікам духу народнага, спрадвечных мар і імкненняў свайго народа да волі, зрабіўся, так бы мовіць, своеасаблівым сімвалам Беларусі, яе празарлівым геніем.**

**Не так даўно ў сярэдняй школе, вывучаючы паэму Коласа «Новая зямля», настаўніца папярэджвала, што яе аўтар стаіць на дробнабуржуазных пазіцыях, а цяга селяніна да зямлі, яго жаданне мець сваю ўласнасць — ёсць перажытак і гістарычны атавізм. Прайшоў некаторы час, і мы, нашчадкі Коласа, нарэшце ўбачылі, што сапраўды трэба мець чалавеку, каб быць гаспадаром на ўласнай зямлі.**

**Сын лесніка, бунтар супраць існуючай улады, якому давялося пасядзець у турме за свае перакананні, усяго сябе аддаў служэнню Бацькаўшчыне, адраджэнню свайго таленавітага, але прыгнечанага народа.**

**Пабывайце ў той вёсцы, дзе нарадзіўся Колас. І вы зразумееце, што давала яму сілу і натхненне. Неверагодная прыгажосць роднай зямлі, трываласць і надзейнасць тых людзей, якія жывуць там.**

**З удзячнасцю прыгадаем свайго выдатнага Песняра напярэдадні 110-гадавіны з дня нараджэння. Пачытаем яго цудоўныя радкі, у якіх ён бясконца верыў у будучыню свайго народа, у нас з вамі.**

**На здымку: Якуб Колас з жыхарамі Пухавіцкага раёна. 1952 г.**

ПАДПІСКА-93

# Пісьмы ў «Звязду», пра «Звязду» і не толькі пра яе...

**Дарагія нашы сябры — чытачы і падпісчыкі! Вашы шматлікія допісы (а ў «Звязду» з пачатку сёлетняга года іх прыйшло звыш 30 тысяч) бываюць на самыя розныя тэмы і закранаюць разнастайныя пытанні сённяшняга складанага жыцця. І мы імкнёмся, каб з гэтага патоку рэдакцыйнай пошты як мага больш вашых цікавых, актуальных і ўсхваляваных лістоў-пасланняў трапіла на старонкі газеты.**

**Зараз, калі завяршаецца падпісная кампанія, натуральна, перад кожным з вас стаіць няпростае пытанне: на карысць якой жа газеты ці часопіса зрабіць свой канчатковы выбар? Кошт іх сёлета рэзка падскочыў, і на некалькі выданняў, як кажуць, не разгонішся.**

**Апошнія даныя сведчаць (а шчырыя радкі вашых вестак пацвярджаюць), што многія з вас па-ранейшаму засталіся вернымі прыхільнікамі старэйшай беларускай газеты ці ўпершыню падпісаліся на яе, за што наш вам вялікі дзякуй. І нам хочацца, каб такіх пастаянных і надзейных сяброў у яе было яшчэ больш.**

**Чаму з усіх выданняў людзі выбралі менавіта «Звязду»? Чым яна прываблівае і з'яўляецца для іх? Што падабаецца і супраць чаго яны на яе старонках? Якую пазіцыю павінна займаць газета і чые інтарэсы абавязана адстойваць?**

**Аб гэтых, а таксама многіх іншых пытаннях і не толькі аб іх ідзе сур'ёзная, зацікаўленая, часам бескампрамісная размова ў пісьмах, падборка якіх змяшчаецца ніжэй.**

### ЗА ЧЫЕ ІНТАРЭСЫ ПАВІННА ЗМАГАЦЦА ГАЗЕТА

Гэты ліст я вам пішу ў сувязі з кампаніяй падпіскі на газеты і часопісы і прасіў бы вас апублікаваць яго ў «Звяздзе», якую я шмат гадоў чытаю і на якую толькі што падпісаўся на 1-е паўгоддзе 1993 г.

Мне ўжо 65 гадоў, і са «Звяздой» я добра знаёмы. Я на яе падпісваўся яшчэ тады, калі ўжо мала хто падпісваўся і чытаў, а чалавека, які гаварыў на роднай беларускай мове, лічылі дзіваком, маглі абазваць нацыяналістам, а то і западозрыць як «былога нямецкага паліцая».

А падпісваўся і чытаў я яе таму, што яна выходзіла на роднай беларускай мове.

«Звязда» павінна была ўказваць беларускаму народу шлях у «светлую будучыню камунізму», таму і назву газеце далі адпаведную.

А куды завяла «Звязда», па якой мы арыентаваліся, цяпер усім добра вядома. За 75 гадоў яна сама ледзь не пагасла і не засталася без свайго роднага чытача. Раней служыла таму, хто яе ўтрымліваў. І цяпер таму служыць, хто плаціць грошы, былым наменклатуршчыкам і партапаратчыкам у новых крэслах і новай скуры, а трэба, каб «Звязда» была незалежнай беларускай нацыянальнай газетай. У беларускамоўнай газеты ёсць усе шанцы стаць самай шматтыражнай газетай беларускага народа, нягледзячы на дарагоўлю і яго беднасць, таму што нацыянальная свядомасць беларусаў прабуджаецца масава і расце, як кажуць, не па днях, а па гадзінах.

«Звязда» — газета беларускага народа і, як я лічу, яна ўсё больш становіцца нашай нацыянальнай газетай. Яе абавязкова павінен чытаць кожны беларус, і яна павінна быць у кожнай беларускай сям'і.

**Іван МІРОНЧЫК,**
**доктар медыцынскіх навук, прафесар.**

**(Калі апублікуеце маё пісьмо, ганарар за яго—у фонд «Звязды»).**

### «ДЗЯКУЙ, ШТО ВЫ ЁСЦЬ...»

Я пастаянны чытач вашай і нашай «Звязды». Шмат гадоў выпісваў газету, потым некалькі гадоў купляў у кіёсках «Саюздруку». На 1993 год зноў падпісаўся на «Звязду» і, акрамя гэтага, я вёў прапаганду сярод сваіх знаёмых, з якіх чалавек шэсць таксама падпісаліся на «Звязду».

Дзякуй, што вы ёсць, вас многія паважаюць, што звяртаецеся да народа з родным словам, што засталіся беларусамі ў самыя змрочныя часы будаўніцтва камунізму. Ваша накіраванасць на адраджэнне беларускасці, культуры, мовы — душы беларуса — надае нам (маю на ўвазе рабочых, бо я працую на заводзе) упэўненасці і сілы ў адраджэнні нацыі, у імкненні звацца людзьмі.

**Анатоль ЦЕРАХ,**
**рабочы вытворчага аб'яднання «Экран».**
г. Барысаў.

### ПРАПАНУЮ НОВУЮ НАЗВУ...

Хочацца спадзявацца, што цёплыя матывы, дакладнасць звестак, беларускае асветніцтва і многае іншае добрае, дапоўненае шляхетнасцю, так уласцівай Беларусі, — застанецца і надалей асноўным зместам вашай працы.

На старонках газеты цяпер можна сустрэць матэрыялы, якія маюць непасрэдныя адносіны да яе назвы, — «Звязда». Але , на мой погляд, надышоў час, калі можна змяніць назву. Я пішу «можна», бо разумею, што кожная старая добрая рэч не пакідаецца без лёгкага смутку, успамінаў... Аднак патрэбна і дакладнасць, і пераемнасць, таму прапаную такую назву — «Зорка Беларусі». Спадзяюся, што такая назва задаволіць вашых чытачоў і прыйдзецца даспадобы і вам самім.

**З сімпатыяй і павагай**
г. Мінск. **У. ПАЎЛОВІЧ.**

### «ЗВЯЗДУ» — КОЖНАМУ ВЕТЭРАНУ

Такое рашэнне прынята ў калектыве Рагачоўскага акцыянерна-камерцыйнага банка, які ўзначальвае Віктар Мікалаевіч Караткевіч.

Тут урачыста адзначылі Дзень пажылых людзей, удзялілі належную ўвагу ветэранам установы. У час сустрэчы з работнікамі банка ветэранам-пенсіянерам разам з грашовай дапамогай у памеры трох тысяч рублёў былі ўручаны і падпісныя квітанцыі на старэйшую газету рэспублікі — флагман беларускай прэсы— «Звязду».

**Міхась КАВАЛЁЎ,**
**член Саюза журналістаў**
г. Рагачоў. **Рэспублікі Беларусь.**

### «І МАЕ АДНОСІНЫ РЭЗКА ЗМЯНІЛІСЯ...»

Да 1 верасня 1992 г. я быў гарачым агітатарам падпіскі на «Звязду». У верасні мая думка рэзка змянілася ў сувязі з тым, што газета авантурыстам з БНФ многа ўдзяліла ўвагі і можна адчуць яе сімпатыю да гэтых авантурыстаў, якія лезуць напралом да ўлады. Не дай Бог гэтым авантурыстам атрымаць перамогу— яны прывядуць беларускі народ да таго, што творыцца ў Абхазіі, Прыднястроўі, Таджыкістане і г. д.

Таму я сам і ўсіх, каго можна, заклікаю не падпісвацца на «Звязду», гэтак жа як і на «Известия».

г. Гомель. **А. КАВАЛЁЎ.**

# КАМУ СЛУЖАЦЬ БЕЛАРУСКІЯ ХЛОПЦЫ

НЕ ТРЭБА БЫЦЬ ДОКАМ У АЭРАНАЎТЫЦЫ, каб здагадацца: паветраны шар праляціць далей і даўжэй, калі з яго своечасова скідваць мяшкі з пяском. Прасцей кажучы, баласт. І, хоць Беларусь заўсёды была не столькі авіяцыйнай дзяржавай, колькі танкавай, першыя асобы суверэннага міністэрства абароны гэта разумеюць. Ашчацінены рознакаліберных ствaламі шарык колеру «хакі» паспяхова пераадольвае паветраную прастору жыццёвых калізій, губляючы час ад часу баласт — афіцэраў і генералаў, якія зарваліся ў галіне «прыхватызацыі».

Мяркуючы па афіцыяльных заявах самога ваеннага ведамства, апошнія не асабліва плачуць з прычыны тых штурхалёў. Так, хутчэй лёгкі сполах, чым жыццёвая драма. Дваіх (В. Асмалоўскага і С. Румянцава) звольнілі ў запас, генерала А. Кастэнку папярэдзілі аб няпоўнай службовай адпаведнасці, траім яго калегам далі вымовы. Адным словам — выпусцілі пару, бо нават дашкольніку зразумела, што вымова—такое ж пакаранне, як ганаровая грамата—узнагарода. Асабліва, калі гаворка ідзе аб крадзяжы ваеннай маёмасці на дзесяткі мільёнаў няхай інфляцыйных, а ўсё ж народных рублёў.

Дзіўная штука — айчынная юрыспрудэнцыя. Паспрабуй разбярыся, дзе злачынная халатнасць, а дзе «бязвіннае» злоўжыванне службовым становішчам і нізкі ўзровень кіраўніцтва. Ці то выпадкова, ці то па натхненню, аднак уладу маючыя аддаюць перавагу менавіта другому варыянту. Ён менш асацыіруецца з кратамі і калючым дротам.

Дарэчы, не буду галаслоўным. Думаю, лічбы і факты, якія прадаставіў нашай газеце галоўны кантралёр Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь Алег Міхайлавіч Ігнаценка, наўрад ці здадуцца непераканаўчымі.

Сярод мужчынскага насельніцтва рэспублікі, бадай, няма такіх, хто не ведаў бы пра існаванне «крутой вучэбкі», якая ў народзе называецца Печы. Менавіта сюды, у вучэбны цэнтр паблізу Барысава, і грымнула праверка Кантрольнай палаты. Дакладней, прыехала, бо фактар нечаканасці адсутнічаў. Алег Міхайлавіч расказваў, што варта яму накіравацца ў якую-небудзь воінскую часць, як там яго ўжо чакаюць...

Рабоце праверачных камісій гэта акалічнасць, вядома, не садзейнічае, але добра, што ў Кантрольнай палаце працуюць прафесіяналы. За два вераснёўскія тыдні яны налічылі ў вучэбным цэнтры нястачы і страт матэрыяльных каштоўнасцей на 9 млн. 356 тыс. рублёў. Для аматараў статыстыкі паведамлю раскладку па службах: рэчыўная не далічылася 8,7 тысячы рублёў, хімічная — 9 мільёнаў, аўтамабільная —118 тысяч, інжынерная—230 тысяч. Дадзім да гэтага яшчэ 108.367 рублёў — грошы, па якіх ужо былі прыняты рашэнні па ўтрыманню фінансавай службай самога вучэбнага цэнтра.

Хто канкрэтна прыклаў руку да таямнічага знікнення, высвятляць давядзецца Барысаўскай ваеннай пракуратуры. Хочацца верыць, верх возьме ісціна, хоць ёсць прычыны і для сумнення. Многія факты правапарушэнняў былі вядомыя афіцэрам ваеннай юстыцыі і раней, аднак з аргвывадамі служкі барысаўскай Феміды па невядомых прычынах не спяшаліся. І ўсё ж, не будзем зазіраць наперад, акцэнтуем увагу на тым, што сапраўды высветлена ўжо сёння.

КОЛЬКІ Ў БЕЛАРУСІ БЕСКВАТЭРНЫХ АФІЦЭРАЎ І ПРАПАРШЧЫКАЎ вядома — амаль 15 тысяч. Раскрыў міністр абароны і яшчэ адну «тайну» — у недалёкім будучым вызваліцца каля 100 ваенных гарадкоў. Лёс апусцелых казармаў, складаў і боксаў пакуль што дакладна не вызначаны, так што «бомжы» ў мундзірах глядзяць у будучыню не без надзеі. Раптам і ім што перападзе.

Марыць, натуральна, не шкодна. Але дэталь. Пакуль захопленыя летуценнай рамантыкай лейтэнанты і капітаны жывуць па чужых кутках, іх доблесныя начальнікі прагматычна хапаюць усё, што трапляе пад руку. Дарэчы, вельмі вынаходліва.

Спатрэбіліся, напрыклад, печанскаму настаўніку маладога папаўнення палкоўніку А. Крамарэнку будматэрыялы. Наіўны той, хто падумае, быццам старшы афіцэр пабег у адпаведныя магазіны. Палкоўнік зрабіў архіпроста. КЭЧ Барысаўскага гарнізона падабрала для яго спісаны з такой нагоды закінуты дом № 343, а Крамарэнка яго разабраў па дошках і цаглінах. Вядома ж, не маючы ніякага дазволу ні на разборку, ні на набыццё будаўнічых матэрыялаў. І гэта яшчэ не ўсё. 6 сакавіка Крамарэнка ўнёс у касу частку грошай за тое, што некалькі дзён назад называлася домам—1.804 рублі 80 капеек. Фінансісты, вырашыўшы, відаць, што палкоўнік занадта шчодры, праз тры месяцы 1.800 рублёў вярнулі назад. Нічога сабе домік, а ўсяго за 4 рублі 80 капеек. Такое нават Астапу Бэндэру не снілася.

Застаецца толькі здагадвацца, чым бы скончылася гэта афера, каб яшчэ праз чатыры месяцы ў Печы не прыехала праверка Кантрольнай палаты РБ. Зрабілі пераразлік і прымусілі вынаходлівага палкоўніка даплаціць да 4 рублёў 80 капеек яшчэ 8.672 рублі 31 капейку.

Печанская «вучэбка» ў Барысаве заўсёды славілася дзвюма «візіткамі» — даведзенай да абсурду муштрой і бясплатнай рабочай сілай. Дзе толькі не працуюць добрасумленныя беларускія хлопцы, якіх мамы адправілі на службу ратную. І на прадпрыемствах горада (у тым ліку, шкодных для здароўя), і на тэрыторыі жылой зоны ваеннага гарадка, і, што стала ўжо прывычным, на

(Заканчэнне на 4-й стар.).

# Малітва да Дзядоў

◆ Яны глядзяць у нашы вочы праз тоўшчу небыцця. Ганна БАЦЯН (жыла ў вёсцы Дарагунь, Валожынскі раён); Віктар МОШКА (жыў у вёсцы Калдыкі); Баляслаў КРОТ (загінуў у канцлагеры Асвенцым); Валянцін СЛІЖ (загінуў у Афганістане).

Угледзьцеся ў твары. Гэта таксама нашы Дзяды, наша спадчына. Яны таксама вырошчвалі хлеб, любілі, ваявалі...

Яны і многія сотні іх землякоў будуць названы ў кнізе «Памяць», што рыхтуюць да выпуску ў Валожыне. У кожным раёне Беларусі ідзе праца па стварэнню такіх выданняў.

У восеньскую маркоту і ціхае задуменне турботным пульсам часу настойліва стукае таемнае слова «Дзяды» і патрабуе вярнуць памінальнаму абраду адвечны сэнс, нададзены далёкімі продкамі. І замаўляе: стрэнь, народзе беларускі, дзядоў сваіх на раздарожжы веку светла, вярніся да вытокаў сваіх, каб не згінуць. Каб не змагла цябе ані ліхая бяда Чарнобыля, ані крывавая расправа Курапат. Той жа толькі моцны, хто не бяспамятны.

У пахмурныя восеньскія дні, калі па шыбах тужліва сцякаюць слёзы і пазалота бяроз калышацца журботным пажарам, думаецца пра былое. Згадваецца пра вечнае. Адкуль прыйшлі мы ў гэты свет і куды знікнем...

Пад восень запавольваецца рытм жыцця, і Змітраўскія Дзяды, асяніны, стаяць збоч сонечнага адвечнага шляху: апошняе рытуальнае вогнішча ў гонар сонца адгарэла на Купалле.

Якой размовы чакаюць людзі з памёршымі продкамі на вячэры па бацьках, па роду? Чаму ўвосень светлыя душы папярэднікаў нашых вяртаюцца ў цёплае зямное жытло? Чаму ў вечаровай цішы і маркоце восені шукае турботная думка жывых сцяжыну ў бясконцасць, адкуль з'яўляюцца разважныя і строгія продкі — некалі памёршыя немаўляты і старыя, мужчыны і жанчыны, сваякі і бадзягі-жабракі, ваяры і сейбіты, з'яднаныя адной святой назовай — род, народ?

Спынюся, прыслухаюся да напеўнай мелодыі слоў: ураджай, нараджаць, народзіны, радзіны... Ці не прасвечвае ў іх кволым восеньскім промнем адвечная сутнасць вялікіх Змітраўскіх Дзядоў? Калі мы падсвядома рахуем дзённыя справы? Увечары. А восень — вечар земляробчага календара, калі засекі поўныя і рукі натомленыя, а думцы адкрыта прастора для важкіх высноў: ці ўсё паспеў, ці ўсё адолеў, ці памножыў спадчыну папярэднікаў?

Цяпер, восенню, трэба прыглядзецца да сябе, як аглядае сябе задуменна парадзіха, як абдымае паглядам пройдзены шлях стары на сконе сваіх дзён. Цяпер час вялікага маўчання, калі гавораць душы — з былога ў наступнае, калі думка прысядае на покуці здарожаным птахам і бачыць вырай, дзе гняздуюцца зоркі. Даўней, калі паміраў чалавек, казалі: «У вырай падаўся». Наш прытулак пры жыцці — рай, і зберагчы яго — наканаванне наша.

Прыдзіце, вярніцеся, Дзяды...

Запалю вам свечку — маленькі агеньчык надзеі. Грамнічную свечку запалю, aберажоную Грамаўніцай, падмацаваную Перуном, адораную сілай нябеснай ахоўнай: ад маланак і хвароб, ад нястачы і нягод, ад злосных думак і сквапных рук — ад цемры бяздушнай. Запалю сэрца, як свечку, памяццю неўміручай.

Запалю свечку і доўга буду ўзірацца ў пажоўклыя фотаздымкі — эпохі мінулыя прасветліць трапяткі агеньчык, а цішыня небезгалосай стане: словы, гукі, нават подыхі жывыя сальюцца ў гімн нашай крохкай планеце.

**Антаніна ХАТЭНКА.**

*(Поўнасцю гэты матэрыял, як і іншыя нарысы пра духоўныя звычаі і абрады беларусаў, можна будзе прачытаць у кнізе А. Хатэнкі «Зніч крыжовых дарог», якая сёлета павінна выйсці ў выдавецтве «Полымя»).*

◆ Гэта каплічка ў памяць ахвяр сталінізму была ўсталявана на Дзяды-90 ля сценаў былога НКУС Беларусі. Ноччу яна знікла, не знойдзена і дасюль. Застаўся толькі гэты здымак У. Панады...

## ГІМНЫ СТАРЫЯ І НОВЫЯ

Нашы чытачы не перастаюць цікавіцца ходам конкурсу на новы беларускі гімн. Як нам паведамілі ў Міністэрстве культуры, у яго, па просьбах грамадскасці, дадаткова ўключаны некаторыя творы. Сярод іх «Паланез» М. Агінскага і «Не пагаснуць зоркі ў небе» А. Янчука на словы Я. Купалы.

Паколькі ў музычным запісе апошні твор не друкаваўся больш сямідзесяці гадоў, сёння мы пазнаёмім з ім чытачоў. Нагадаем, што гэта песня ў 1918 годзе стала афіцыяльным гімнам БНР. Вельмі шырокую папулярнасць яна набыла ў Заходняй Беларусі як патрыятычны гімн змагання. У той час радок з першага куплета спяваўся так: «Не загіне край забраны...»

Гэты нотны запіс мы маем магчымасць надрукаваць дзякуючы паэту і кампазітару Сяргею Новіку-Пяюну. Ён захаваў яго ва ўласнаручным спісе са школьнага спеўніка Віленскай беларускай гімназіі, выдадзенага А. Грыневічам у 1920 годзе.

Мяркуем, незалежна ад вынікаў конкурсу, гэта цудоўная песня павінна часцей гучаць на Беларусі.

Урачыста

Не па- гас- нуць зор- кі ў не- бе па- куль не- ба бу- дзе, не за- гі- не край наш род- ны па- куль бу- дуць лю- дзі, не за- гі- не край наш род- ны па- куль бу- дуць лю- дзі. на- ро- даў.

### Не пагаснуць зоркі ў небе

*Словы Я. КУПАЛЫ*

*Музыка А. ЯНЧУКА, апрацоўка А. ЛУК'ЯНЮКА*

**Не пагаснуць зоркі ў небе,**
**Пакуль неба будзе,**
**Не загіне край наш родны,**
**Пакуль будуць людзі.**

**Ночка цёмная на свеце**
**Вечна не начуе,**
**Зерне, кінутае ў ніву,**
**Усходзе ды красуе.**

**Беларускаю рукою**
**Светлай праўды сіла**
**Славу лепшую напіша**
**Беларусі мілай.**

**Зацвіце наш край, як сонца**
**Пасля непагоды,**
**У роўнай волі, у роўным стане**
**Між усіх народаў.**

## На сход, на Бацькаўшчыну!

З такім заклікам звярнулася да нашых суайчыннікаў Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». У звароце адзначаецца, што Згуртаванне згодна са сваім Статутам пры падтрымцы іншых палітычных сіл і пры спрыянні дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь узяло на сябе ініцыятыву склікання і правядзення першага Сходу беларусаў блізкага замежжа, які павінен стаць важным этапам яднання нацыі напярэдадні форуму беларусаў свету.

Мяркуецца, што ў рабоце Сходу прымуць удзел дэлегаты ад усіх рэгіёнаў былога Саюза, Беласточчыны, а таксама прадстаўнікі далёкага беларускага замежжа. На Сходзе будуць абмяркоўвацца такія важныя і балючыя пытанні, як набыццё замежнымі беларусамі грамадзянства Рэспублікі Беларусь, вяртанне беларускіх вайскоўцаў на радзіму, а таксама праблемы ўласнасці.

**Першы Сход беларусаў блізкага замежжа мае адбыцца ў Мінску 19—20 снежня па адрасу: вул. Фрунзе, 5, Дом літаратара.**

Аргкамітэт Рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» просіць усіх, хто хоча прыняць удзел у Сходзе, загадзя паведаміць пра гэта **на адрас старшыні ЗБС Яўгена Лецкі: 220053, Беларусь, Мінск, Даўгінаўскі тракт, д. 52, кв. 9, тэлефон і факс 37-91-87; можна тэлефанаваць у «Бацькаўшчыну» (27-32-38).**

БЕЛАРУШЧЫНА

# Каго прадстаўляе Беларускае прадстаўніцтва ў Маскве

## *Чаму Бацькаўшчына не хоча думаць пра сваіх дзяцей?*

**Нядаўна рэдакцыя газеты «Звязда» атрымала ад актывістаў беларускай дыяспары Масквы адкрыты ліст, у якім узнімаецца праблема яе ўзаемаадносін з Беларускім прадстаўніцтвам у Маскве. «Сярод 14 культурных таварыстваў Масквы ад былых саюзных рэспублік беларускае — самае беднае. Справа ў тым, што ўсе пасольствы і паўпрэдствы, за выключэннем беларускага, адчыняюць для сваіх дыяспар нацыянальна-культурныя цэнтры, дапамагаюць усім, чым магчыма. Таму ў іх ёсць бібліятэкі, памяшканні, школы, свае выданні, транспарт і шмат што іншае. У беларусаў жа — нічога, пры поўным неразуменні важнасці гэтай справы з боку паўпрэдства».**

**З прэс-аташэ паўнамоцнага прадстаўніцтва Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь пры ўрадзе Расійскай Федэрацыі сп. Анатолем АНДРУХОВІЧАМ гутарыць журналістка Таццяна АНТОНАВА.**

**— Крыху больш года назад Беларусь абвясціла незалежнасць, і над будынкам нашага пастпрэдства ў Маскве ўзняўся бела-чырвона-белы сцяг. Якія змены ў сувязі з гэтым адбыліся ў дзейнасці прадстаўніцтва, які «твар» мае наша дзяржава за мяжой?**

— Да лета мінулага года мы мелі ў Маскве так званае пастаяннае прадстаўніцтва Саўміна БССР пры Савеце Міністраў СССР. Пасля абвяшчэння незалежнасці Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову, згодна з якой гэта структура стала называцца паўнамоцным прадстаўніцтвам Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь пры ўрадзе Расійскай Федэрацыі. Што гэта азначае? А тое, што наша паўпрэдства прадстаўляе далёка не ўсю Беларусь і інтарэсы яе грамадзян, а толькі Саўмін рэспублікі, урадавыя інтарэсы, калі больш дакладна.

**— Якія ж функцыі вызначыў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь для свайго прадстаўніцтва ў Маскве?**

— Я іх вызначыў бы так: сустрэць дэлегацыі, размясціць, накарміць. Пракантраляваць шлях той ці іншай паперы ад нашага ўрада да расійскага. У штаце няма нават спецыяліста-юрыста, кансультантаў па ваенных пытаннях, міжнацыянальных адносінах, да якіх маглі б звярнуцца са сваімі праблемамі шматлікія нашы суайчыннікі. А іх у Расіі каля двух мільёнаў, у Маскве ж і Маскоўскай вобласці — амаль 80 тысяч чалавек. Многія з нашых суайчыннікаў за межамі Бацькаўшчыны апынуліся цяпер у даволі складанай сітуацыі. Ідуць да нас, у сваё роднае, беларускае прадстаўніцтва, спадзеючыся знайсці тут і падтрымку, і разуменне, і дапамогу.

**— І з якімі праблемамі нашы землякі звяртаюцца да вас?**

— Спачатку мне хацелася б увогуле некалькі слоў сказаць пра беларусаў у Расіі, і ў прыватнасці ў Маскве. Тыя з іх, хто прыехаў сюды ў савецкі час, — маладыя дзяўчаты і хлопцы — лімітчыкі, маюць незайздросны лёс. Яны працавалі на самых цяжкіх работах. Многія з іх не атрымалі ад дзяржавы ўласнага кута, жывуць у інтэрнатах. Па сутнасці ў Расіі яны так і засталіся чужымі людзьмі. Тут, я думаю, трэба разумець вялікую розніцу паміж становішчам расейцаў у Беларусі і беларусаў у Расіі. Рускія ў нас у асноўным службоўцы, інжынерна-тэхнічныя работнікі, інтэлігенцыя, а беларусы ў Расіі па свайму грамадскаму становішчу — на самым нізе сацыяльнай лесвіцы. Але калі Беларусь пачала падымацца на ногі, нешта змянілася і ў свядомасці гэтых людзей. Моцны адраджэнцкі імпульс з Бацькаўшчыны вывеў іх са стану абыякавасці. Да мяне асабіста прыходзіць штодня шмат людзей. Што іх хвалюе? Часцей за ўсё яны задаюць пытанне, ці будзем мы мець беларускае грамадзянства? Хто мы — лімітá, мігранты, адвергнутыя? І што я магу ім адказаць, калі Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь правёў рэзкую мяжу паміж беларусамі, якія пражываюць на тэрыторыі Беларусі, і беларусамі за яе межамі.

Бясконца ідуць у наша прадстаўніцтва вайскоўцы, беларусы па паходжанню, якія хацелі б служыць у беларускім войску, сваёй дзяржаве. У Міністэрстве абароны ў Маскве іх, дарэчы, нават і слухаць ніхто не хоча, паказваюць на дзверы. Так яны і абіваюць парогі месяцамі. А мы нават не можам даць кваліфікаванага тлумачэння па многіх пытаннях. Расійскі ўрад праяўляе поўнае раўнадушша да праблем гэтых людзей і — што дзіўна — беларускі таксама.

**— Беларускае прадстаўніцтва, наколькі я ведаю, дало прытулак грамадскім культурным арганізацыям беларусаў у Маскве. Якія ў вас з імі ўзаемаадносіны?**

— Можна сказаць, нефармальныя. Па сваёй ініцыятыве, на свой страх і рызыку паўпрэдства выдзеліла невялікі пакойчык, каб у ім змаглі збірацца прадстаўнікі розных беларускіх грамадскіх аб'яднанняў. А іх ужо нямала ў Маскве: ёсць аб'яднанне беларускіх вайскоўцаў, філія БНФ, суполкі Таварыства беларускай мовы і культуры імя Ф. Скарыны, Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» і зусім юная арганізацыя — Згуртаванне беларускай моладзі «Пагоня». Тут яны арганізуюць вечарыны, адзначаюць беларускія святы, займаюцца вывучэннем гісторыі. Мы, як толькі можам, спрыяем ім. Але ж будынак паўпрэдства абсалютна не прыстасаваны для дзейнасці такіх суполак. Больш таго, нам, яго работнікам, даводзіцца працаваць проста на калідорах. Няма ні сваёй бібліятэкі, ні чытальнай залы, дзе можна было б карыстацца беларускай прэсай, кнігамі. Ні рубля не выдзелена беларускаму прадстаўніцтву ўрадам на работу са сваімі грамадскімі арганізацыямі ў Маскве. Больш таго, сёлета беларусы пазбаўлены магчымасці нават выпісаць неабходныя беларускія выданні. Іх проста няма ў каталогу.

**— А як дзейнічаюць прадстаўніцтвы і пасольствы, скажам, Украіны, Прыбалтыкі ў Маскве?**

— Кожная былая савецкая рэспубліка адкрыла для сваёй дыяспары ў Маскве культурныя цэнтры. Наша прадстаўніцтва — гэта проста атавізм. Маленькія краіны — Латвія, Літва, Эстонія маюць свае ўчасткі зямлі, там яны ўзвялі будынкі ўласнымі сіламі. Беларусі таксама шмат разоў прапаноўвалі такое выйсце, але яна не магла знайсці сродкаў. Больш таго, безгаспадарчасць прывяла да таго, што мы згубілі і тое, што мелі. У прыватнасці, у комплекс Беларускага прадстаўніцтва ўваходзяць некалькі пабудоў. Быў распрацаваны ў свой час план рэканструкцыі аднаго з іх. Але не знайшлося ініцыятыўных людзей, каб давесці справу да канца. Той будынак як быццам і належыць нам, але ён аддадзены ў арэнду нейкім арганізацыям. Канешне ж, не беларускім. Вось такая парадаксальная сітуацыя.

**— Скажыце, калі ласка, а як ставяцца маскоўскія ўлады да дзейнасці беларускіх культурных арганізацый?**

— Беларусы — самы бяскрыўдны народ, відаць. У свой час, калі ў Маскве вырашаліся важныя пытанні, якія датычылі Украіны, мясцовыя ўкраінцы самым актыўным чынам дэманстравалі тут сваю волю, ладзілі дэманстрацыі, змагаліся за сваю будучыню. А беларусы заўсёды сціпла маўчалі. Яны як бы і не мелі сваёй пазіцыі. Мусіць, правільна, што быць беларусам заўсёды было подзвігам. Я лічу, што беларусы ў душы павінны даспець, дарасці да незалежнасці. І дапамагчы ім у гэтым павінна іх Бацькаўшчына. А пакуль мы самі сябе не пачнём паважаць — нас не будуць паважаць і іншыя. Узяць хоць бы той жа Чарнобыль. Знешэканомбанк Расіі замарозіў сродкі — 28 мільёнаў рублёў на будаўніцтва медыцынскага цэнтра для дзяцей у Гомелі. Нягледзячы на перамовы ўрадаў, змен не адбылося. Калі вялікая дзяржава, якой з'яўляецца Расія, не лічыцца з дзяржавай Беларусь, то хіба яна будзе лічыцца з нейкімі там культурнымі запатрабаваннямі беларусаў на сваёй зямлі.

Не хочаш тут жыць — дык едзь да сябе! За свае правы заўсёды трэба змагацца, а не спадзявацца, што нехта спагадліва зробіць гэта за цябе.

## «РАНЕЙ НЕ ЗАДУМВАЛІСЯ, ШТО МЫ ЁСЦЬ БЕЛАРУСЫ»

Так сказаў на святкаванні рэгістрацыі Згуртавання беларускай моладзі «Пагоня», якое адбылося 18 кастрычніка ў Маскве, старшыня яго Управы Андрэй Алешка. Сябры гэтага згуртавання — беларускія хлопцы і дзяўчаты, якія вучацца ў навучальных установах Масквы — будучыя юрысты, журналісты, хімікі, філолагі. Адны трапілі ў Маскву разам з сям'ёй, другія прыехалі сюды вучыцца самі, спадзеючыся атрымаць грунтоўную адукацыю.

Факт утварэння сваёй арганізацыі «Пагоня» вырашыла адзначыць акцыяй «Беларуская Масква». Распачалася яна пасяджэннем, на якое прыехалі і выступілі госці з Мінска — вядомы вучоны У. Конан, дырэктар акцыянернага таварыства «Кросны» з Мінска Ян Грыб, а таксама і наш зямляк з Францыі Леанід Шыманец. Пасля сябры згуртавання «Пагоня» правезлі гасцей па тых мясцінах, якія так ці іначай звязаны з дзейнасцю беларусаў. А беларусы, як вядома з гістарычных крыніц, зрабілі немалы ўклад у духоўную і матэрыяльную культуру Расіі.

Увечары захопленыя ідэяй адраджэння сваёй Бацькаўшчыны беларускія студэнты ў Маскве паказалі, як яны выконваюць народныя танцы, як спяваюць.

Праз некалькі гадоў усе яны мяркуюць спецыялістамі вярнуцца на Беларусь.

**Таццяна АНТОНАВА.**

**Яўгенія ПФЛЯЎМБАЎМ**

# У лістападавых вятрах

## З вершаў апошніх гадоў

### ЗМАНІ

Усім я зараз зайздрошчу,
Хто боль не зазнаў такі,
Хто нігае цераз плошчу
І бегма бяжыць нацянькі.
Хто вечар страчае ўцешна
І ўцешна ідзе на званок,
Каму без прычыны смешна
І хто да рубіны змок.
Каго абакралі зараз
Начыста і спрытна так,
Што згледзела толькі хмара,
Як гэты злодзей растаў.
Каму б яшчэ пазайздросціць,
Каб боль на час запыніць?
А ў хату грукаюць госці,
Змані, што табе не баліць.

* * *

Колькі вас пачата, вершаў,
Не падслуханых нікім!..
А ці ёсць, ці быў ён першы,
Дзе скляпаліся радкі

Першай скаргі, першых смуткаў,
Першых градзін з навальніц,
Калі сэрца без абутку
Уцякала з камяніц.

Неставала там угрэву,
Не распальвалася печ,
Глухі светлыя распевы
Крылы гнуліся між плеч.

І жылі, і дні жывілі
Цветам, водарам зямлі,
Без ілюзій, без ідылій,
Дрэў мацуючы камлі...

І разгушквалася крона
У лістападавых вятрах.

Дождж быў горкі і салёны,
Не расла пад ім кара.

Верш ляцеў такой парою
З воблачкам паразмаўляць,
Паміж небам і гарою
Птахам белым пралунаць.

У высокай небаплыні
Узгараліся радкі
І плылі па гэтай сіні,
Як між кветак светлячкі.

Не чутны там іх імёны,
Рэху месца нестае,
Па сваіх жывуць законах
Вершы бедныя мае.

Штосьці ты недагледзела
У пявучых мройных снах,
Плывучы на каравелах,
Калі скрозь цвіла вясна.

Штосьці там да рук прыбралі
З цвету яблынь, з белых сліў,
І красу тваіх азалій
Не ў пару мароз спаліў.

Непазбыўныя утраты —
Попел той не варушы,
А вось зараз ты багаты —
Вершаў поўныя кашы.
1990

●

Якая смешная істота:
Без дайпрычыны —
сум і жаль
Вядзеш у дом сваёй ахвотай,
Абы ўцячы ад той самоты,
Што можа распачаць свой баль.

Бывае час, яна — патрэбна
І раскашуецца ў душы
Няўцямнай музыкай з малебнаў,
Калі хто моцна папрашыў.

Здараецца ж, яна тыгрыцай
Шматае сэрца дзень пры дні,
Калі ж той промень зазіхціцца,
Каб сэрца трохі засланіць.

Як проста ўсё і як складана!
Ні разгадаць, ані ўрачы,
Якому ты належыш стану —
Ці золкам ясным, ці начы.

Калі ж на шчасце ты натрапіш,
Схіліся нізка перад ім,
Не бойся ні сінцоў, ні драпін —
Яны загояцца ў раі.
1990

●

Сонца гасне за адхонам.
Думка гасне ўслед яму,
Па зацверджаных законах
Пакідаю я турму.

Заціскала горла скруха,
Шмат гадоў яна гняла,
Як зацятая свякруха.
Крок у крок за мной ішла.
1991

● ДАВЕДКІ

## Акадэмічны адпачынак—у працоўны стаж?

**Адкажыце, калі ласка, ці праўда, што водпуск па хваробе з'яўляецца перапынкам у працоўным стажы і не ўлічваецца ў яго? Калі гэта так, то чаму?**

**А. КУГЕЛЬ.**
г. Барысаў.

За растлумачэннем рэдакцыя звярнулася ў аддзел сацыяльнага забеспячэння Мінскага абласнога Савета народных дэпутатаў. Вось што паведаміў **намеснік загадчыка аддзела Я. ПАПКО:**

— Паводле дакументаў пенсіённай справы А. Кугеля, стаж яго работы складае 41 год 8 месяцаў.

Згодна з Палажэннем аб парадку назначэння і выплаты дзяржаўных пенсій, калі ёсць даныя аб тым, што навучэнец у перыяд навучання меў доўгі перапынак у сувязі з прадастаўленнем яму водпуску па хваробе ці па іншых прычынах, гэты час не залічваецца ў працоўны стаж.

Зыходзячы з вышэйсказанага, аўтар пісьма не мае права прэтэндаваць на залічэнне ў працоўны стаж часу знаходжання ў акадэмічным водпуску.

● КОЛА ФАРТУНЫ

## Што такое «Лато-мільён»?

**З нядаўняга часу па тэлевізары шмат рэкламуюць новую спартыўную латарэю «Лато-мільён», якая кожнаму нібыта дае магчымасць стаць мільянерам. Раскажыце, калі ласка, больш падрабязна пра гэту гульню.**

**Я. ЛАБАНАЎ., (г. Брэст).**

Сапраўды, пачынаючы з 1 кастрычніка бягучага года, кожны чацвер праводзіцца розыгрыш электроннай алімпійскай латарэі «Лато-мільён». Першыя тры туры былі азнаямляльныя і бясплатныя, хоць выйгрышы — сапраўдныя. Гэта латарэя праводзіцца Расійскім алімпійскім камітэтам сумесна з грэчаскай фірмай «Інтраком».

Гульня нечым падобная на «Спортлато»: як і там, у «Лато-мільён» трэба адгадаць 6 нумароў з 49. Гэта забяспечвае іграку 10 рублёў. Аднак можна адзначыць і большую колькасць лічбаў. Пры гэтым павялічыцца колькасць згуляных варыянтаў, і за кожны варыянт трэба заплаціць 10 рублёў. Калі будуць адгаданы 5 і 4 лічбы, вы таксама атрымаеце выйгрыш. У выпадку, калі ніхто з ігракоў не адгадае шэсць шчаслівых нумароў, усе грошы, якія павінны былі пайсці на суперпрыз, пераносяцца ў наступны тыраж. Аналагічная гульня, распачатая ў Грэцыі два гады назад, абагаціла многіх людзей. Самы вялікі выйгрыш склаў амаль 2 мільёны долараў. У яе гуляе практычна ўся Грэцыя — пры насельніцтве каля 10 мільёнаў чалавек у кожным тыражы запаўняюцца 80—100 мільёнаў варыянтаў. Зараз «Лато-мільён» распаўсюджваецца ў Балгарыі, Румыніі. У Расіі стваральнікі латарэі пачалі з Масквы і Маскоўскай вобласці, а ў далейшым плануецца распаўсюдзіць гульню на іншыя рэгіёны СНД, у тым ліку і Беларусь. Даход ад тыражу размяркоўваецца наступным чынам: 40 працэнтаў — выйгрышны фонд (з іх 40 працэнтаў — суперпрыз, 33 працэнты — за 5 і 27 працэнтаў — за 4 адгаданыя нумары); 30 працэнтаў — ў Алімпійскі камітэт Расіі на патрэбы расійскага спорту і 30 працэнтаў — на пагашэнне расходаў па арганізацыі латарэі і на яе далейшае развіццё.

● УДАКЛАДНЯЕМ

## Грамадзянства і падданства

**Усё часцей у друку і ў быце сустракаюцца тэрміны «грамадзянства» і «падданства». Ці існуе паміж імі якая-небудзь розніца? І як называць жыхара Беларусі?**

**А. ЛЯЎЧУК.**
(Брэсцкая вобласць).

Тэрмін «падданства» ўжываецца толькі ў адносінах да грамадзян манархісцкіх дзяржаў, такіх, напрыклад, як Вялікабрытанія, Бельгія, Данія, Швецыя, Нарвегія, Японія, у якіх вярхоўная дзяржаўная ўлада належыць манарху і перадаецца, як правіла, у спадчыну. Фармальна падданства ўстанаўлівае вернасць манарху, аднак фактычна яно раўназначнае грамадзянству. Грамадзянствам або падданствам называюць таксама прыналежнасць асобы да дзяржавы ў юрыдычным сэнсе. Такім чынам, жыхары нашай рэспублікі могуць называць сябе як «падданымі Беларусі», так і «грамадзянамі Беларусі».




● ПРА НАС

## Жывём доўга. На зайздрасць іншым

**Наколькі доўга жывуць жыхары Беларусі ў параўнанні з насельнікамі іншых краін?**

**А. ЦІМАШКОЎ. (Дзяржынск).**

Пытанне заканамернае, і як пацверджанне таму — звесткі, атрыманыя намі ў Дзяржкамстаце Рэспублікі Беларусь.

Паводле даных на 1990 год, сярэдняя працягласць жыцця беларусаў — 71,8 года. Пры гэтым для мужчын сярэдні ўзрост вызначаецца лічбай 66,8, а для жанчын — 76,4. Падобныя паказчыкі характэрныя для Польшчы, Балгарыі, Югаславіі. А лідэрамі ў гэтых адносінах з'яўляюцца Японія (у сярэднім 80 гадоў) і Францыя (76 гадоў). Для параўнання — сярэдняя працягласць жыцця ў Індыі складае ўсяго 57 гадоў.

● ПАДЗЯЛІЛІСЯ

## У кожнага—сваё багацце

**Ці нельга абнародаваць афіцыяльныя даныя аб манапалістах-вытворцах у былым Саюзе.**

**Ж. ГАЛКОЎСКАЯ (па тэлефоне).**

Па афіцыяльных даных Дзяржкамстата лёзы для бяспечных брытваў вырабляюцца толькі ў Расіі, электрабрытвы—на Украіне і ў Расіі, легкавыя аўтамабілі — у Расіі і на Украіне, пыласосы — у Літве, на Украіне і ў Расіі, фотаапараты —у Беларусі, на Украіне і ў Расіі, швейныя машынкі—толькі ў Расіі.

Крупы трымае пад кантролем Расія — 55 працэнтаў паставак, макаронныя вырабы — Украіна—86 працэнтаў, рыбу—Расія—59 працэнтаў (рыбныя кансервы — 55) і дзяржавы Прыбалтыкі (адпаведна 26 і 36 працэнтаў).

Асноўным пастаўшчыком бульбы ў іншыя рэгіёны з'яўляецца Беларусь (40 працэнтаў); агародніны — Узбекістан (38 працэнтаў), садавіны і вінаграду — Малдова (36 працэнтаў), 80 працэнтаў паставак солі і 55 алею прыпадаюць на Украіну.

Грузія і Азербайджан з'яўляюцца адзінымі пастаўшчыкамі гарбаты ў іншыя рэгіёны СНД.

ПЫТАЛЬНІК ! ПЫТАЛЬНІК ! ПЫТАЛЬНІК !

**● Жанчыны на Беларусі жывуць на дзесяць гадоў даўжэй, чым мужчыны ● Мільянерам, гуляючы ў электронную латарэю можна стаць, але гэта можа зрабіць далёка не кожны ● Трымайце ў руцэ іржавы цвік, калі пазычаеце грошы... ● І сорак аднаго года стажу не хапіла! ● У каго бульба, у каго гарбата, а ў каго і кансервы ● «Указ» кіраўніцтва акцыянернай кампаніі «Ітэм» аб узнагароджанні ордэнам «Арла» ● «Пагоню» ніяк не хочуць пакідаць у спакоі...**

● У ПОШУКАХ ПРАФЕСІІ

## Хачу стаць паслом

**Беларусь усё смялей уваходзіць у новую Еўропу: наладжвае самастойныя міжнародныя сувязі, устанаўлівае дыпламатычныя адносіны. Пашыраецца штат і нашага Міністэрства замежных спраў. Ці ёсць у рэспубліцы якая-небудзь навучальная ўстанова, дзе рыхтуюць дыпламатаў?**

**І. ПАРФЯНОВІЧ. (г. Магілёў).**

Наша рэспубліка пакуль што не мае ўласных «дыпламатычных» навучальных устаноў. Сярод назначаных беларускіх паслоў толькі адзін — У. Сянько, пасол у Рэспубліцы Польшча — прафесіянальны дыпламат. Астатнія — з дэпутатаў парламента. Штат супрацоўнікаў Міністэрства замежных спраў Беларусі папаўняецца за кошт выпускнікоў Маскоўскага дзяржаўнага інстытута міжнародных адносін, аналагічнага Кіеўскага інстытута, Мінскага інстытута замежных моў.

Але стала вядома, што ў Беларускім дзяржаўным універсітэце на базе гістарычнага факультэта пачынаецца падрыхтоўка спецыялістаў па міжнародных адносінах. Дапамогу ў наладжванні навучальнага працэсу БДУ аказваюць замежныя дыпламаты, акрэдытаваныя ў Мінску, у прыватнасці, пасол Турцыі згадзіўся чытаць для слухачоў аддзялення лекцыі.

● ТЭМА ВЫХАДНЫХ

## У правінцыі шампанскае за шчасце

**Я вялікі аматар шампанскага. Але нават пры яго высокай цане купіць гэты напітак вельмі цяжка. Няўжо па ўсёй рэспубліцы такое становішча.**

**А. РАКОВІЧ, (г. Кобрын).**

Так, з шампанскім заўсёды было напружана. Нягледзячы на тое, што Мінскі завод шампанскіх вінаў працуе амаль бесперабойна, яно па-ранейшаму ў дэфіцыце, бо не хапае бутэлек, пустых скрынь. Менавіта з-за гэтага аб'ём прадукцыі сёння ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года складае толькі 87 працэнтаў.

З выпускаемай прадукцыі частка дастаецца Мінску — каля 30 працэнтаў.

Астатняе віно раўнамерна размяркоўваецца па рэспубліцы.

● ВАГІ ФЕМІДЫ

## Колькі каштуе «Пагоня»?

**Чытала, што адзін з жыхароў Мінска звярнуўся з іскам у суд на вашу газету, патрабуючы, каб «Звязда» зняла са сваёй першай старонкі цяперашні герб «Пагоню». Як закончылася гэта справа?**

**К. МІХАЙЛАВА. (Мінскі раён).**

Сапраўды, гэта справа крыху незвычайная, і на сённяшні дзень яна не закончылася. Аб яе сутнасці мы паведамлялі ўжо нашым чытачам: А. Барнатовіч звярнуўся з заявай у Савецкі нарсуд беларускай сталіцы з патрабаваннем, каб рэдакцыя «Звязды» выплаціла яму маральную кампенсацыю ў размеры 1 тысяча рублёў за тое, што змяшчае на старонках газеты сімволіку, якой карысталіся ў гады Вялікай Айчыннай вайны беларускія паліцаі і калабаранты. У той жа час падпольшчыкі і партызаны, рызыкуючы жыццём, распаўсюджвалі газету, якая клікала на барацьбу з ворагам.

Суд Савецкага раёна гэты іск не прыняў. Тады Аляксандр Барнатовіч звярнуўся ў Мінскі гарадскі суд, аднак тут таксама адхілілі скаргу.

Па вялікаму рахунку, можна было б падаць іск і на Вярхоўны Савет ці ўрад Беларусі, якія таксама выкарыстоўваюць «Пагоню» ў сваёй дакументацыі. Ну, а суму «маральнай кампенсацыі» вызначыць, скажам, у мільён рублёў. Інфляцыя ж ды і ўзровень інстанцыі не той.

● ЖЫЦЦЁ АДНО...

## Аўтамабіль больш небяспечны, чым газавы пісталет

**Меў няшчасце трапіць у рукі міліцыянера, які забраў у мяне газавы балончык. Праўда, да адказнасці за нашэнне «зброі» мяне не прыцягнулі, але ж... Па вуліцах сёння хадзіць страшна: узрасла колькасць злачынстваў. Здаецца, даўно ўжо трэба дазволіць прымяненне газавай зброі і балончыкаў са слёзатачывым газам. Але да гэтага мы, відаць, негатовыя.**

**Цікава, як усё адбываецца на практыцы ў краінах, дзе газавая зброя ўжо атрымала распаўсюджанне!**

**І. К. (г. Гродна).**

За мяжой гэтыя сродкі старанна правяраюцца медыкамі-таксіколагамі на прадмет бяспекі для жыцця, і толькі пасля выпрабаванняў допускаюцца ў продаж.

Гандаль зброяй для самаабароны, у тым ліку і газавымі пісталетамі, шырока распаўсюджаны ў Германіі, дзе іх продаж дасягае дзесяткаў тысяч штук у год. Няма праблем з набыццём газавай зброі самаабароны пры адпаведным дазволе і ў Польшчы. У Варшаве, напрыклад, магазінаў, якія гандлююць гэтым таварам, больш, чым аптэк. Толькі ў мінулым годзе паліцыя Польшчы выдала 87 тысяч дазволаў на набыццё газавых пісталетаў. Акрамя газавай зброі ў Польшчы для самаабароны актыўна выкарыстоўваюцца гумавыя палкі, схаваныя ў палку або парасон, электрычныя дубінкі, якія прыводзяць нападаючых у шокавы стан. З 1 студзеня 1989 г. дазволены свабодны продаж газавай зброі і іншых сродкаў самаабароны ў Венгрыі.




У пералічаных краінах падобную зброю не маюць права купляць і захоўваць людзі ва ўзросце да 18 гадоў.

Ці часта газавая зброя самаабароны выкарыстоўваецца для абароны? Даследаванні, якія праводзілі ў Германіі, Польшчы, Венгрыі, паказваюць, што яе выкарыстоўваюць вельмі рэдка. Набыццё зброі самаабароны мае перш за ўсё псіхалагічнае значэнне, бо надае яе ўладальнікам упэўненасць у сабе. А калі зброю ўсё ж прыходзіцца даставаць, ужо адно гэта адпуджвае зламыснікаў. У цэлым жа лічыцца, што газавы пісталет або балончык, нават калі ён трапіць у рукі лёгкадумнага чалавека, менш небяспечны, чым, напрыклад, аўтамабіль.

● ЁСЦЬ ПЫТАННЕ

## Знішчылі лес, і душа не баліць,

### АБО ЯКІМІ МЕТАДАМІ ВЫРАШАЕЦЦА ДАЧНАЯ ПРАБЛЕМА

**«За некалькі кіламетраў ад вёскі Верхполле высеклі нямала гектараў лесу. Кажуць, пад дачы. Цікава, каму прыйшла ў галаву гэта ідэя?»**

**У. ДРАБЫШЭЎСКІ, (г. Мінск)**

У лютым сёлетняга года распараджэннем Саўміна Рэспублікі Беларусь частка зямельных участкаў, якія знаходзіліся ў карыстанні Міністэрства абароны, была перададзена ў народную гаспадарку. Адпаведнае рашэнне прыняў і Гродзенскі аблвыканком, адзначыўшы, што гэтыя ўчасткі найперш павінны выкарыстоўвацца пад будаўніцтва жылля, а таксама для калектыўнага садаводства і агародніцтва.

Безумоўна, у гэтым ёсць свая логіка, асабліва ўлічваючы тое, што толькі ў абласным цэнтры звыш семнаццаці тысяч чалавек стаяць у чарзе на атрыманне дачных участкаў. Дык чаму не задаволіць іх інтарэсы за кошт тэрыторый, якія раней належалі вайскоўцам? Але вось што атрымалася на практыцы.

У красавіку ў Парэцкае ваеннае лясніцтва завітала камісія, у якую ўваходзілі адказныя работнікі абласнога і Гродзенскага раённага выканаўчых камітэтаў. Быў складзены акт перадачы часткі зямель, што належалі ваеннаму ведамству, лесагаспадарчаму аб'яднанню пры аблвыканкоме і Гродзенскаму райвыканкому. Камісія палічыла мэтазгодным спыніць усе віды высечкі на гэтых плошчах з першага мая, а таксама правесці іх абследаванне. Як вынік — райвыканкомаўскае рашэнне ад 5 ліпеня. Згодна з ім, 495 гектараў зямель ваеннага ведамства ўключаюцца ў спецыяльны фонд зямельнага запасу райвыканкома (пра падобныя фонды чуць яшчэ не даводзілася—**Б. П.**). І тут жа 55 гектараў перадаюцца Гродзенскаму гарвыканкому для арганізацыі садова - агародніцкіх таварыстваў. Астатнія 440 гектараў праз нейкі час таксама выключаюцца са спецфонду райвыканкома і прымаюцца ў дзяржлясфонд.

Узнікае заканамернае пытанне: чаму ўчасткі, што належалі ваеннаму лясніцтву, былі адразу не перададзены ў дзяржлясфонд? Навошта спатрэбіўся пасрэднік у якасці нейкага райвыканкомаўскага спецфонду? Відаць, гэта дазваляла без асаблівых праблем надаць выгляд законнасці таму, што здарылася потым на гэтых 55 гектарах. Дарэчы, што ўяўляюць сабой перададзеныя ў распараджэнне Гродзенскага гарвыканкома плошчы? Не пабачыўшы іх, можна падумаць, гэта пустка, якая ніяк не дачакаецца дачнікаў. Сёння гэтыя землі сапраўды выглядаюць менавіта так. А яшчэ ўчора тут быў лес. Прычым пасаджаны на працягу... апошніх чатырох гадоў (?!) Дзесяць гектараў увогуле толькі сёлета засадзілі. І ўсё гэта цяпер знішчана. З санкцыі улад.

Дзеля чаго былі пушчаны на вецер затрачаныя на пасадку лесу сродкі? Каму той лес перашкаджаў і што мы атрымаем цяпер узамен? Шчыра кажучы, будучым дачнікам, якія пачнуць гаспадарыць у гэтых мясцінах асабліва не пазайздросціш. Па-першае, без асабістага транспарту дабрацца сюды не так проста. Ад чыгуначнага прыпынку трэба «адмахаць» кіламетраў пяць пешшу. Па-другое, дачны будынак у самым лесе—гэта не толькі рамантыка, але і пэўная небяспека: колькі цяпер развялося жадаючых пагрэць рукі на чужой маёмасці! Па-трэцяе, тут суцэльныя пяскі, і, каб зрабіць гэту зямлю больш-менш урадлівай, прыйдзецца нямала ўкласці і працы і грошай.

Зрэшты, справа не толькі ў гэтым. Магчыма, з-за адсутнасці іншых варыянтаў схопяцца дачнікі і за гэты. Галоўнае ў іншым: няўжо для вырашэння сапраўды актуальнай сёння праблемы падыходзяць усе сродкі і метады? Няўжо дзеля гэтага можна ахвяраваць літаральна ўсім, нават такой каштоўнасцю, як лес? Мала нам пажараў, дык трэба яшчэ самім знішчаць сваё багацце?!

Дарэчы, цяжка зразумець, чаму сярод зямель ваеннага лясніцтва пад дачы выбралі менавіта гэтыя, засаджаныя маладымі соснамі, а не тыя ж алешнікі або плошчы, якія, па некаторых даных, ужо не першы год «пад калгасам». Зрэшты, колькі цяпер ні разважай, а справа зроблена, лес знішчаны. І, шчыра кажучы, слаба верыцца, што нехта панясе за гэта адказнасць.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

● ТРЭФАВАЯ ДАМА

## Не бойцеся чорнай кошкі

**Кажуць, што сустрэць жанчыну з поўнымі вёдрамі — гэта праверанае прыкмета ўдачы. Аднак зараз не толькі ў вялікіх, але і ў маленькіх гарадах не часта сустрэнеш жанчын з вёдрамі. Таму было б цікава даведацца, якія ёсць яшчэ добрыя прыкметы!**

**Ю. АЛДАНАВА (г. Мінск).**

Сапраўды, для тых, хто верыць у прыкметы, можна назваць і іншыя, якія «гарантуюць» поспех. Напрыклад, заўважыць павука на павуцінні пры заходзе сонца — можна чакаць усмешкі фартуны. А калі ён спускаецца перад вашым тварам — чакайце добрых вестак.

ПРАПАНУЕМ ВАМ ЯШЧЭ НЕКАЛЬКІ ПРАВЕРАНЫХ ДОБРЫХ ПРЫКМЕТ:

● мець у доме статуэтку слана з узнятым хобатам,

● уставаць з ложка з правай нагі,

● выходзячы раніцай з дому, убачыць немаўля,

● атрымаць у падарунак рэч са срэбра,

● трымаць у доме кветку азалію,

● сустрэць на вуліцы адначасова трох манашак,

● разбіць кубак у суботу (канешне, не спецыяльна),

● калі ляціце ў самалёце і ў вашай суседкі ў адзенні ёсць што-небудзь чырвонае,

● чыхнуць перад снеданнем (вас чакае прыемны сюрпрыз).

РАЗ-ПОРАЗ ДОБРУЮ ПРЫКМЕТУ МОЖНА АРГАНІЗАВАЦЬ УЛАСНЫМІ СІЛАМІ. **Напрыклад:**

● змяніць гадзіннік, калі на працягу месяца ў вас усё не ладзіцца.

● перад сустрэчай з любімым чалавекам надзець упрыгажэнне круглай формы,

● абагнаць павозку з сенам,

● ступіць на прыступку з правай нагі,

● трымаць у руцэ ржавы цвік, калі пазычаеце грошы.

І ЯШЧЭ:

● калі хваліцеся або празмерна радуецеся нечаму, не забудзьцеся тут жа пастукаць сагнутым пальцам па драўлянай рэчы,

● не праходзьце пад раскрытай лесвіцай-драбінай або тым, што яе нагадвае,

● калі абставіны вымушаюць вас сказаць няпраўду, перакрыжуйце ўказальны і сярэдні пальцы правай рукі,

● убачыўшы кошку на сваім шляху, схапіцеся за чорны гузік,

● не пачынайце важных спраў у пятніцу 13-га чысла.

● ЮРЫДЫЧНАЯ ПАПКА

## Дапамога на пахаванне

**Мяне напаткала вялікае, непапраўнае гора: памёр муж. Якая належыць дапамога на яго пахаванне?**

**М. ВЕНГЕРАВА.**
**Дубровенскі раён.**

**Начальнік цэнтра па налічэнню і выплаце пенсій і дапамог аддзела сацыяльнага забеспячэння Віцебскага аблвыканкома М. ВАСЮКОЎ** адказаў, што, згодна з былым саюзным заканадаўствам аб пенсіённым забеспячэнні грамадзян, дапамога на пахаванне выплачвалася ў размеры двухмесячнай пенсіі нябожчыка. Аднак пунктам 10 пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 28.2.92 г. гэта выплата павялічана да чатырохразовага размеру мінімальнай заработнай платы.

Варта зазначыць, што па меры росту рознічных цэн размер мінімальнай зарплаты ўвесь час павышаўся. Таму з улікам гэтага і павінна выплачвацца дапамога.

● ЛАЎРОВЫ ВЯНОК

## «Арлы» ў палёце

**Чуў, што не так даўно ў Маскве былі ўручаны ордэны «Арла», але не дзяржавай, а нейкай акцыянернай кампаніяй. Дык што цяпер любая камерцыйная структура зможа ўстанаўліваць свае ўзнагароды!**

**С. ФЕДАРОВІЧ.**
**Магілёўскі раён.**

Так, своеасаблівай недзяржаўнай узнагароды — ордэна «Арла»— былі ўдастоены пераможцы конкурсу «Дзелавы чалавек — формула поспеху». Ідэя правядзення гэтага конкурсу з'явілася ў кіраўніцтва акцыянернай кампаніі «Ітэм», праўленне якой падключыла да гэтага праекта некалькі газет, дзяржаўных і грамадскіх арганізацый. З 800 кандыдатур праз паўгода да фінішу конкурсу прыйшлі толькі 22 чалавекі. Усе яны атрымалі па ордэну з лацінскім дэвізам: «Дабрабыт народа — вышэйшая мэта». А кавалерамі ордэна «Арла» І ступені сталі ўсяго толькі шэсць найбольш дастойных кандыдатаў, сярод якіх касманаўт Сяргей Крыкалёў і дырэктар цырка Юрый Нікулін.

● ГАРАДСКІ ПЕЙЗАЖ

## Як падмятаюць сталіцу?

**У такім вялікім горадзе, як Мінск, штодзённа накопліваюцца сотні тон смецця. Куды яно вывозіцца, ці знаходзяць яму якое-небудзь практычнае прымяненне?**

**Ю. ПІСЬМЯНКОЎ. (г. Мінск).**

Сапраўды, аб'ёмы бытавога смецця, якое вывозіцца за межы горада, уражваюць: за год амаль 3,5 мільёна кубаметраў. Для так званага «бытавога» смецця за горадам ёсць дзве звалкі (адна для прамысловых адходаў) і яшчэ смеццеперапрацоўчы завод.

Гэта яўна недастаткова: не хапае ні месца, ні магутнасцей. Напрыклад, сметнік па Магілёўскай шашы эксплуатуецца ўжо больш 30 гадоў.

На жаль, няма ў нас ніводнага прадпрыемства па спальванню ці кампасціроўцы смецця, хоць для такога горада, як наша сталіца, іх павінна быць 5—6. Асабліва хвалюе санэпідэмстанцыю праблема з таксічнымі адходамі (да 30 тысяч кубаметраў у год).

Па ўсім відаць, без Захаду нам зноў не справіцца.



ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ — ПРАВЕРЦЕ

# ЯК КАРЫСТАЦЦА ТЫДНЁВЫМ ГАРАСКОПАМ

● **Назіральнасць і асцярожнасць**

Кожны чалавек вельмі індывідуальна рэагуе на падзеі, якія адбываюцца ў космасе. Падзеі, якія зусім рэальныя, напрыклад, процістаянне планет Сатурн і Уран, сонечнае зацьменне і г. д.

У аднаго выклікае гэта творчы ўздым, перыяд акажацца вельмі ўдалым.

Другі не адчуе нічога асаблівага. Для трэцяга ўсё закончыцца трагедыяй.

● **Перш за ўсё звярніце ўвагу на папярэджанне аб здароўі**

Калі Вы здаровыя, лягчэй справіцца з цяжкасцямі.

Падумайце хвілін 5 аб тым, што гэты тыдзень цяжкі. Астролаг кажа, што 3-га чысла ў чацвер наогул можна захварэць, і нават, указана, чаго асцерагацца. Магчыма, самаадчуванне пачне пагаршацца на дзень раней. Як бы гэта не захварэць. Мне нельга хварэць. У мяне шмат спраў.

Падумалі? Дастаткова.

Мімаходзь можаце прыгадаць гэта. «Пакруцілі» 2-3 хвіліны — і хопіць.

● **Папярэджанне траўмы**

Практыка астролага паказала, што найбольш цяжкія па выніках аварыйныя сітуацыі ўзнікаюць, калі чалавек знаходзіцца ў стане эмацыянальнай эйфарыі. Ён у цудоўным настроі, добра ідуць справы, жыццё цудоўнае і хочацца абняць свет. У гэты момант ён найбольш безабаронны перад светам. Галава дрэнна кантралюе ўнутраны стан, навакольную абстаноўку. Кантроль бяспекі (узаемадзеянне ўнутранага і знешняга) практычна адсутнічае.

1) Калі дакладна ўказаны дзень, то абавязкова дадайце да яго папярэдні. Менш небяспечны наступны.

2) Падумайце 5—10 хвілін аб тым, што запланавана на гэты тыдзень. Калі ў Вас у гэтыя дні паездка, асабліва на аўтамабілі, павялічце асцярожнасць. Наколькі зможаце.

Цвёрда запомніце, што гэтыя дні для вас небяспечныя. Перыядычна думайце пра гэта. 5 хвілін дастаткова.

3) Перад паездкай абавязкова прыгадайце, што для Вас цяпер цяжкія дні.

4) Пастарайцеся, каб Вашы эмоцыі, адмоўныя і станоўчыя, не «вылівaліся цераз край».

5) Пазбягайце рызыкоўных сітуацый. На вытворчасці захоўвайце тэхніку бяспекі.

6) Запомніце на ўсё астатняе жыццё: у такія дні ў мазгах дрэнна працуе «цэнтр бяспекі». Таму неабходна або яго стымуляваць, або паводзіць сябе ціха.

● **Калі тыдзень па гараскопу спрыяльны,** забудзьце пра яго. Проста рабіце свае справы.

● **Рэкамендацыі гараскопа супалі з вашымі планамі.** Падумайце 5—10 хвілін. Аб тым, што Вашу справу лепш правярнуць па рэкамендацыі — у сераду. Гэта добры дзень.

Не атрымаецца? Нічога страшнага. Усё роўна тыдзень Ваш.

Складзіце план на тыдзень і пастарайцеся яго выканаць.

Аб тым, што прагноз для Вас спрыяльны, забудзьце. Тут важна не сапсаваць.

● **Рэкамендацыі па колеру адзення**

Гэта вельмі мяккая дапамога астролага. Карыстайцеся ёю таксама мякка.

Напрыклад, рэкамендаваны зялёны колер.

Падумайце пра Ваш гардэроб. Ёсць там што-небудзь зялёнае? Аднак абавязковая ўмова: гэта рэч павінна Вам падабацца.

Калі няма нічога прыдатнага, не бяда. Робячы свае справы, затрымайце погляд на прыемным для Вас адценні зялёнага. Можаце памяркоўна ўсміхнуцца.

Колер дапаможа стабілізаваць Ваш стан.

● **Аб адносінах з людзьмі, аб каханні**

Пры спрыяльным прагнозе дзейнічайце, як хочаце.

Пры неспрыяльным — быццам Вас накрывае вялікай хваляй. Набралі ў лёгкія пабольш паветра, каб захаваць плывучасць. Закрылі рот, каб не захлынуцца. І выграбайце ў бяспечнае месца.

▲. **Агульная рэкамендацыя**

Навучыцеся вызначаць агульны характар касмічнага ўплыву.

Прыклад: планеты дапамогуць зрабіць правільны выбар наконт далейшага жыцця. Не выключана фундаментальная змена сферы дзейнасці. Падрыхтуйцеся да бунту малодшага пакалення ў сям'і. Астролаг не рэкамендуе Вам надзяваць «вожыкавы рукавіцы».

Гэты тыдзень крызісны, таму што закрануты ўсе сферы: унутранае жыццё, сям'я, работа.

Найбольш верагодныя адчуванні няўпэўненасці, прыгнечанасці, нежадання працаваць.

Чаму? Кожная развілка ў жыцці мяркуе доўгае накапленне станоўчага і адмоўнага вопыту. Перад выбарам адбываецца ўзмоцненая, часта ліхаманкавая, перапрацоўка гэтага вопыту. Можна параўнаць з генеральнай уборкай шафы. Па выніку гэтай работы вы зробіце свой выбар.

Такія працэсы могуць адбывацца бессвядома, знешне ніяк не праяўляючыся. І гэта лепшы варыянт. Тут трэба ўмець чакаць, трываць і не фарсіраваць. Сітуацыя дастаткова актывізуецца космасам.

Сферу дзейнасці зменяць адзінкі. Многія прыйдуць да высновы, што іх шлях не такі ўжо дрэнны.

Бунт у сям'і можа праявіцца ад нежадання памыць падлогу да выхаду з дому.

● **Вынікі крызісаў**

Як бы Вы ні стрымліваліся, Ваша ўнутраная перанапружанасць выходзіць у навакольную прастору. Як кругі ад кінутага ў ваду каменя. Толькі кругі брудныя. Найбольш адчувальнымі да іх аказваюцца сям'я, родныя, асабліва дзеці. Дзеці могуць захварэць.

Тут я магу прапанаваць толькі цярпенне і час. І работу над сабой.

● **І апошняе**

Хто такія дарослыя? Гэта вялікія дзеці. Дарослым вельмі не хапае цацак. Толькі яны не хочуць у гэтым прызнавацца.

Гараскоп—добрая інтэлектуальная гульня. Ёсць рызыка—можна сапсаваць. Ёсць бяспека —больш чым на 1—2 тыдні не сапсуеце. Ёсць выхад на практыку, а натуральна—і вынік.

Займайцеся гараскопам, калі хочаце адпачыць, пераключыцца.

Больш за іншыя мне падабаецца гараскоп беларускамоўнай газеты «Звязда».

**Н. СІНЧУК.**

**P. S. Калі вас зацікавяць рэкамендацыі нашай аўтаркі, можаце пазваніць ёй па тэлефоне 62-11-54 з 9 да 12 гадзін.**

# Усходні гараскоп на будучы тыдзень

**З Дэлі перадае кар. ІТАР—ТАСС Сяргей БУЛАНЦАЎ.**

У дзелавым плане КАЗЯРОГ застанецца пестуном планет. Да спаўнення мар і спадзяванняў — рукой падаць. Усе імкнуцца дапамагчы вам. Калі ўсплывае здзелка, у якой раней вы аказаліся непажаданым удзельнікам, не адмаўляйцеся, але і не прымайце на сябе сур'ёзныя фінансавыя абавязацельствы. Служачаму астролаг напамінае словы евангеліста: заставайся ўсякі на сваім месцы. Пакуль не трэба і думаць аб перамене работы. Лепшыя лекі ў выпадку недамагання — адпачынак.

Мужнасць дапаможа ВАДАЛЕЮ пераадолець паласу няўдачы. Служачага чакае вымова за недастатковую стараннасць. Токар і аўтаматчык рызыкуюць атрымаць вытворчую траўму. Жанчыны без усякіх бачных прычын стануць падобнымі на разлютаваных ільвіц. Успышкі любві і рэўнасці нагадваюць сейсмаграму землетрасення. Вас нязлосна, але едка паддражніваюць муж ці каханка.

Прачуханка, атрыманая РЫБАМІ ад астролага на мінулым тыдні, пайшла ім яўна на карысць. Вы заслужылі зусім спрыяльныя дні 2 і 6 лістапада. Інвестыцыі акажуцца ўдалымі ў доўгатэрміновым плане, пачынаючы прадпрымальнік зробіць крок да поспеху. Не ўсё так гладка ў працуючай жанчыны. Вас даймаюць ранішнія «разборкі» дома і транспартны галоп на работу. Астролаг, які звычайна перасцерагае жанчын ад легкадумнага галавакружэння, на гэты раз бачыць у ім сродак пазбаўлення ад стрэсу.

АВЕН павінен настойліва ісці да галоўнай мэты, не беручы пад увагу дробязі. Мясарубку працаздольнасці трэба запусціць на ўсю моц. Разам з тым, дапусціце непапраўную памылку, калі вырашыце рызыкнуць у малазнаёмай справе. Зараз не час для эксперыментаў. Вялікага поспеху даб'юцца прадпрымальнікі, якія сумленна працуюць на збяднелага спажыўца. Ніякіх дэбатаў з босам — пугай абуха не пераб'еш. Закаханыя быццам задавальненне знаходзяць у спрэчках.

Абставіны ЦЯЛЬЦА блізкія да капрызаў надвор'я. Планеты абяцаюць прасвет у хмарах 2 і 5 лістапада. Набярыцеся цярпення для мноства нудных клопатаў. На пакрыццё расходаў зарплаты напэўна не хопіць. Аб гэтым асабліва трэба памятаць жанчынам, якія і пры пустым кашальку мужа ці сябра апантаныя пакупкамі. У мужа і жонкі гэта выкліча ўзаемныя шпількі. Калі вы звязаны любоўнымі вузамі з Ракам ці Рыбай, вельмі магчымы разрыў.

Добры настрой гарантаваны БЛІЗНЯТАМ 2 лістапада. Верагодна, атрымаеце грошы, якія даўно вам належаць. Прадпрымальнікі, звязаныя з замежнымі партнёрамі, могуць адправіцца за граніцу. Будзьце гатовыя да таго, што там вас чакае дзелавая неразбярыха. Малодшы калега бізнесмена імкнецца перахапіць выгадны кантракт і адгалінавацца. Прыйдзецца аплаціць многа рахункаў. Аддайце частку часу каханню, інакш страціце яго.

Спрыяльны перыяд для ажыццяўлення пачынанняў, вынашаных РАКАМ. Лепшыя ў гэтым плане дні — 2 і 7 лістапада. Напэўна даб'ецца вялікага поспеху дзяржаўны служачы — крок уверх ці ўключэнне ў састаў прэстыжнага камітэта. Можа захварэць хтосьці са старэйшых сваякоў. Далёкая камандзіроўка акажацца ўдалай. Закаханыя, хоць і разлучаны неадкладнымі справамі, павінны правесці разам 6 ці 7 лістапада.

ЛЕЎ заняты падлікам даходаў. Практычна любая справа прыносіць прыбытак. Ваш партнёр па сумеснай фірме разрадзіцца бліскучай ідэяй. У студэнтаў, якія вывучаюць юрыспрудэнцыю, фінансавую і эканамічную навуку, перыяд ваганняў — ці не змяніць профіль. Астролаг мяркуе, што першапачатковы выбар быў зроблены правільна. Гарачы раман з сябрам ці сяброўкай каханага ці каханай небяспечны суцэльнымі непрыемнасцямі.

Калі ДЗЕВА накіруе ў патрэбную кропку вектар прыкладання сіл, планеты адплацяць за мінулыя цяжкасці. Навіслая фінансавая праблема павінна паспяхова вырашыцца 2 лістапада. Пралічыце варыянты і не бярыце на сябе больш таго, з чым зможаце справіцца ў тэрмін. Чарговы зігзаг урадавай палітыкі можа парушыць доўгатэрміновыя планы. Усе, хто нарадзіўся пад вашым знакам задыяка, схільныя да іскрамётнага флірту. Як быць? Вам відней.

Бітва ў адзіночку будзе ў ШАЛЯЎ. Хтосьці старанна спрабуе ачарніць ваша імя. Выяўленага нядобразычліўца не трэба выклікаць на дуэль, дастаткова не даваць яму казырных карт. Сканцэнтруйце намаганні на справе, якая ў апошні час не клеіцца. Неадкладна ўтрасайце дамашнія праблемы, інакш яны ўзгарацца. Небяспечная ў гэтых адносінах дата — 4 лістапада.

Пачынанні СКАРПІЁНА ўдалыя дзякуючы добра падабраным кадрам і ўласціваму яму самому аптымізму. Служачага чакаюць змены, якія падрыхтуюць глебу для рыўка наперад. Сваякі, якія жывуць сумесна, раз'язджаюцца да ўзаемнага задавальнення. Той, хто аказаўся далёка ад дома, павінны быць гатовы да таго, што прыйдзецца вярнуцца па тэрміноваму выкліку.

Цягамоціну нуднай работы адчуе СТРАЛЕЦ. Што ж, не заўсёды кату масленіца. Затое трапіце ў першачарговы спіс на атрыманне доўгачаканай кватэры, а камусьці 2—3 лістапада зваліцца куча грошай з-за граніцы. Стройная і даўганогая дзева пераможа на конкурсе прыгажосці ці стане манекеншчыцай. Нядаўняя незаслужаная крыўда будзе згладжана падарункам і вясёлым застоллем.

# «СУДНЫ ДЗЕНЬ» У КАРЭЙСКІМ ВАРЫЯНЦЕ НЕ АДБЫЎСЯ. ПАЧАКАЕМ ІНДЫЙСКАГА?

## ПАКУЛЬ КАРЭЙСКІЯ ПАСТЫРЫ ГАСЦЯВАЛІ Ў МІНСКУ, ІХ ІДЭЙНЫ ЛІДЭР СЕЎ ЗА КРАТЫ

Ва ўсе часы ўсходнеазіяцкі рэлігійны феномен уражваў не толькі незлічонай колькасцю «асарці» з самых розных вераванняў і культаў, але і той фанатычнасцю, з якой амаль кожны вернік ставіцца да «адзіна правільнай у свеце» рэлігіі. У гэтым сэнсе найбольшых «поспехаў» дасягнула паўднёвакарэйская царква, штогод падносячы сусветнаму супольніцтву далёка не самыя лепшыя сюрпрызы.

Апошнім, і пакуль што самым апошнім «дасягненнем» карэйскіх прапаведнікаў быў іх прагноз аб непазбежным канцы свету, запланаваным на 28 кастрычніка. Дарэчы, тэрмін быццам бы вылічаны па «Адкрыццях» Іаана Багаслова («Апакаліпсісу»), а таму ліквідаваў на корані ўсякія пытанні з боку «дылетантаў ад рэлігіі» (г. зн. нас з вамі).

Невядома кіруючыся якімі пачуццямі, але цэлыя арміі місіянераў з Карэйскага паўвострава пакінулі «ў бядзе» родную краіну і акупіравалі тое, што яшчэ ўчора было Еўрапейскай часткай СССР, тым самым даючы зразумець, што ўсе грэшнікі Зямлі жывуць менавіта тут. Але вось і пытанне: чаму выратаванне чалавецтва трэба пачынаць менавіта з Мінска ці Масквы? Што, у іншых краінах грэшнікаў няма? Дарэчы, такое адчуванне, што пра блізкі «судны дзень» і ведалі толькі ў Паўднёвай Карэі ды ў Беларусі з Расіяй. Сталіцы апошніх заклеены афішамі: адзіны шлях выратавання — хрысціцца, каяцца і прымыкаць да паствы карэйскіх свяшчэннікаў. І білет на нябёсы запаветныя вам гарантаваны.

Дарэчы, прыбыўшы на сеанс «сканчэння свету» роўна ў прызначаны імпартнай місіяй час (канец свету павінен быў адбыцца ў асобна ўзятым парку імя Горкага), я нікога, апроч невялікай кучкі да мяне падобных, не ўбачыў. Прадстаўнікоў з ліку карэйскіх празарліўцаў як карова языком злізала. Такое іх знікненне, прычым, у самы непадыходзячы момант, можна вытлумачыць трыма прычынамі.

Па-першае, было «нялётнае надвор'е» і, адпаведна, немагчымасць масавага ўзнясення народу на нябёсы. Па-другое, «сеанс» не мог пачацца з-за найвялікшай актуальнасці футбольнага матча паміж зборнымі Беларусі і Украіны (які балельшчык кіне футбол дзеля нейкага там канца свету?). А па-трэцяе, 80 працэнтаў маладых грэшнікаў у гэты час удзельнічалі ў шабашы скандальных панкаў з «Сектара Газа» ў былым Доме палітасветы (вось дзе сапраўды відовішча па «Апакаліпсісу»).

Але, напэўна, апошнюю кропку ў гэтым падзацягнутым спектаклі паставілі факты, якія з'явіліся ў сродках інфармацыі і паказалі ў самым непрывабным выглядзе духоўнага лідэра паўднёвакарэйскай місіі, 44-гадовага Лі Чан Рыма. Арышт «хроснага бацькі» руху прапаведнікаў «суднага дня» ў Паўднёвай Карэі азнаменаваў сабой пачатак рашучых дзеянняў супраць падкай на сенсацыі арганізацыі. Сярод прад'яўленых яму абвінавачванняў — прысваенне буйных сумаў грошай, ахвяраваных царкве веруючымі (у маі 1988 года Лі Чан Рым заснаваў уласную царкву на аснове сваіх, трэба сказаць, не зусім здаровых ідэй), а таксама ўжыванне наркотыкаў. Напярэдадні плануемага «суднага дня» следства ўжо мела прызнанне Лі Чан Рыма ў тым, што ён абсалютна не верыць у тое, што свет спыніць сваё існаванне ў канцы кастрычніка. Але не гэта галоўнае. Паліцыя ўстанавіла, што прапаведнік проста прысвоіў каля 3,3 мільярда паўднёвакарэйскіх вон (каля 5 мільёнаў долараў ЗША) і нават «на ўсякі выпадак» пачаў іх абменьваць на рознай вартасці валюту. Пры арышце ў яго дома паліцыя знайшла больш за 26 тысяч долараў ЗША, а таксама каштоўныя паперы на суму 300 мільёнаў вон. Прычым гэтыя паперы сапраўдныя аж да 1995 года! Іншымі словамі, сам духоўны настаўнік зусім не збіраўся развітвацца са светам гэтай восенню.

Праўда, як толькі гаворка зайшла пра грошы і Лі Чан Рым зразумеў, што прычынай яго арышту з'яўляюцца не толькі наркотыкі, ён раптам зноў аб'явіў сябе веруючым у «судны дзень». Паводле яго новай версіі, ён не меў намеру ўзносіцца на нябёсы 28 кастрычніка, а ў інтарэсах чалавецтва хацеў застацца на Зямлі і выконваць далей сваю місію, для чаго, зразумела, яму спатрэбіліся б грошы. У сваю чаргу паліцыя вытлумачыла яго матэрыяльныя запатрабаванні, і асабліва цікавасць да замежнай валюты, усяго толькі намерам пры першым жа зручным выпадку збегчы за мяжу. І тым не менш скандальная рэпутацыя Лі Чан Рыма пайшла яму на карысць. Прынамсі, яго аднадумцы ва ўсіх частках свету ўпэўнены, што гэта нішто іншае, як «ганенне за праўду». Толькі ў адной Паўднёвай Карэі ў блізкі канец свету вераць больш за 100 тысяч чалавек (нават нягледзячы на правал нядаўна абяцанага). Хто ж увогуле трапляе ў лік ашуканых грэшнымі пастырамі? За чый кошт набіваюць свае кішэні падобныя прапаведнікі? Перш за ўсё ахвярамі становяцца студэнты, у якіх далёка не ўсё добра на навуковым фронце; людзі, якія пацярпелі няўдачы ў асабістым жыцці, а таксама тыя, што сутыкнуліся з буйнымі непрыемнасцямі на рабоце. Мяркуючы па рэзанансу ў карэйскай прэсе, кіраўнікі эсхаталагічных сектаў (г. зн. спавядаючых вучэнне аб канцы свету) пускаюць у ход прымусовыя меры і «прамыванне мазгоў» у адносінах да маладых веруючых, аднак праваахоўныя органы часцей за ўсё не маюць дастатковых падстаў у такой далікатнай сферы для таго, каб прыцягнуць вінаватых да крымінальнай адказнасці.

Тым не менш вайна сектантам на радзіме аб'яўлена. Усур'ёз зацікавіліся «прышэльцамі» і ў нас. Па праўдзе сказаць, на Беларусі таксама знайшлося нямала ачмурэлых ад гора працякоў, якім за тысяч пару ўсё-такі ўдалося набыць «білет на нябёсы запаветныя». Яно і зразумела: хто ж напярэдадні «суднага дня» згодзіцца цярпець пякельныя мукі, адмовіўшыся ад мары аб райскай уладкаванасці?

Цяпер што датычыцца самой даты. Падобныя «дакладныя» разлікі гучалі на працягу чалавечай гісторыі так часта, што ўсе выпадкі нават не прыпомніш. У апошнім раздзеле «Апакаліпсісу» неаднаразова паўтараецца, што Страшны суд набліжаецца, і таму першыя тры стагоддзі нашай эры большасць хрысціян разумелі гэтыя словы літаральна. Трохі пазней айцы царквы перасталі тыцкаць пальцам у неба, палічыўшы, што спачатку павінна мінуць 1.000 гадоў царквы Хрыстовай на зямлі. Перад 1000-годдзем пачалася паніка. Да гадавіны распінання (1.033 год) запанікавалі яшчэ раз і, нічога не дачакаўшыся, зноў супакоіліся. Затым баяліся тысячагоддзя атрымання хрысціянскай царквой свабоды пры рымскім імператару Канстанціне (XIV стагоддзе). Наступнай датай быў аб'яўлены 1492 год, ён жа 7000-ы год ад стварэння свету.

Увогуле, чаго толькі няма ў «Апакаліпсісе»! А першае, што кідаецца ў вочы, дык гэта адсутнасць усялякага напамінку аб дні 28 кастрычніка 1992 г.

Дарэчы, да ведама тых землякоў, якія ўсё-такі набылі білет у рай з рук шчодрых карэйцаў. Не спяшайцеся ад яго пазбаўляцца. Састаў на нябёсы адправіцца... 29 лістапада.

**Ігар КАРНЕЙ.**

**Я НЕ ПАЧУЎ, ШТО ПРАСІЛІ ПЕРАД ІКОНАМІ ГЭТЫЯ СТАРЫЯ. Кажуць, што пад канец жыцця людзі становяцца бліжэй да нябёсаў і там, уверсе, чутны нават ціхі старэчы шэпт, нават бязгучны подых сухіх вуснаў.**

**Сёння яны жывуць у Маладзечанскім доме-інтэрнаце. Старасць, хваробы, нястача зрабілі іх такімі падобнымі паміж сабой. Падобнымі сталі іх малітвы — словы прашчэння здрадзіўшым дзецям, словы ўспаміну пра далёкую родную хату, словы падзякі добрым людзям, якія прытулілі іх пад казённым дахам.**

**Спакутаваная дзяржава яшчэ ў стане знаходзіць нейкія капейкі на ўтрыманне некалькіх соцень такіх вось адзінокіх старых. Але ж з кожным днём усё больш знядоленых бабулек і дзядуль просяць дзеля Хрыста на вакзалах, каля шыкоўных рэстаранаў, на базарах. На іх усіх у дзяржавы казённых дамоў не хопіць.**

**Чым дапаможам мы ім! Мы, большасць якіх сама стаіць за крок ад жабрацкага парогу!**

**Няхай кожны знойдзе адказ сам.**

**Калі ж дапамагчы зусім няма чым, то памяніце хоць добрым словам, такім жа шчырым і ціхім, як іх старэчыя малітвы.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

# У кожнага свой крыж

**Трэба сказаць, Уладзімір Георгіевіч Гумен, кіраўнік аршанскага Цэнтра нетрадыцыйнай медыцыны, наогул разбурыў вобраз знахара, які ўжо склаўся ў маёй свядомасці, — не такім ён мне ўяўляўся. Ён аднолькава свабодна гаварыў аб праблемах сучаснай палітыкі і дасягненнях у галіне айчыннай радыёэлектронікі, прыводзіў вельмі цікавыя гістарычныя факты і выдатна арыентаваўся ў плынях поп-музыкі. Расказу ж пра дапамогу звышнатуральнай сілы не было. А хацелася ж вельмі (відаць, па прывычцы) пачуць пра штосьці чарадзейнае...**

— Павінен вас расчараваць, — сказаў на гэта Уладзімір Георгіевіч. — Членам ні адной асацыяцыі чарадзеяў і магаў я не з'яўляюся. Хоць, прызнацца, некаторыя з метадаў майго ўздзеяння на іншых людзей можна аднесці да чараўнічых.

Згодны з вамі, што чалавек, які прымушае скакаць на кончыках пальцаў агонь ці спакойна ляжаць у кіпені, зусім не абавязкова «круты» майстар па ўздзеянню на іншых людзей, тым больш па іх аздараўленню. У большасці выпадкаў гэта ўсяго толькі трукі. Прытым не заўсёды самыя складаныя.

Сапраўднае ж майстэрства —уздзейнічаць на аб'ект сваёй увагі такім чынам, каб ён гэтага не заўважыў, па-першае. А па-другое, каб усе яго далейшыя дзеянні, якія ён будзе выконваць па вашай праграме, чалавек успрымаў як свае.

**— Але ўплываць на падсвядомасць іншых людзей недапушчальна!**

— І ўсё ж гэта робіцца. Дрэнна, калі такая ўлада над людзьмі ў руках нядобрага, несумленнага чалавека. Валодаючы падобнымі ведамі і задаўшыся мэтай атрымліваць з гэтага карысць толькі для сябе, ён можа стаць горшым за самага жудаснага выхадца з пекла.

Дастаткова вялікую шкоду могуць прынесці і так званыя чараўнікі-недавучкі, якія, узброіўшыся нейкімі абрыўкамі сапраўдных ведаў, імкнуцца ўздзейнічаць на людзей, нават аддалена не ўяўляючы вынікаў свайго ўздзеяння.

Але калі майстар сваімі ведамі і здольнасцямі дапамагае чалавеку перамагчы хваробу, гэта, па-вашаму, дапушчальна?

**— Так, але нават цяжка ўявіць, якім чынам падобнае «чарадзейства» і ўздзеянне можна накіраваць на людзей. Не падзеліцеся сакрэтамі свайго метаду?**

— Калі ласка, тут ніякіх сакрэтаў няма. Сутнасць яго заключаецца ў тым, каб у першую чаргу перабудаваць арганізм чалавека, арганізаваць яго рэсурсы, усе яго сувязі з навакольным светам на барацьбу з хваробай. Гэты рэжым у кожнага закладзены ў падсвядомасці, але падключыць яго і накіраваць на выздараўленне самому чалавеку бывае не пад сілу.

Як правіла, адно толькі пасіўнае жаданне здароўю не дапаможа. Іншы раз сваім нявер'ем хворы стрымлівае ход выздараўлення. Запаліць агонь надзеі, укласці непахіснасць, сілу можна з дапамогай уздзеяння.

Не сакрэт, што шляхам усялякіх трэніровак, у першую чаргу псіхалагічных, арганізм можа існаваць нават ва ўмовах, не прыстасаваных для яго жыццядзейнасці. Напрыклад, ва ўмовах бязважкасці. Гэта і падштурхнула мяне да думкі, што можна ўключаць так званую праграму выздараўлення, пры якой арганізм з навакольнага асяроддзя будзе браць толькі тое, што яму неабходна. А нашы свядомыя ўчынкі будуць накіраваныя на тое, каб выканаць закладзеную праграму.

Прыкладна такія працэсы адбываюцца ў арганізме цяжарнай жанчыны. Прырода перабудоўвае яго такім чынам, што ён працуе толькі на сам плод. Вядома, што ў час цяжарнасці з жанчынай могуць адбывацца самыя розныя з'явы: адмова ад устойлівых звычак, набыццё новых, а некаторыя маці ў корані мяняюць расклад свайго жыцця.

Важна адзначыць, што змяненні ў арганізме адбываюцца не толькі на ўзроўні метабалічных працэсаў. Перабудоўваецца і сама псіхіка чалавека.

На маю думку, метад перабудовы — гэта нішто іншае, як адшуканне таго адзінага рэжыму, у якім арганізм пачынае выздараўліваць.

Практычна ўсе ўзроўні медыцыны (як традыцыйнай, так і нетрадыцыйнай) могуць з'яўляцца толькі дапаможным сродкам у праграме выздараўлення. Але без гэтых дадатковых сродкаў уздзеяння на ачаг хваробы абысціся даволі цяжка.

**— З дапамогай вашага метаду вы здольны лячыць усе хваробы?**

— Вядома, не. Але гэта было б цудоўна!

**— Так, асабліва ў наш час, калі ў бальніцах іншы раз не хапае самага неабходнага.**

— Наіўна было б лічыць, што можна вылечыць апошнюю стадыю анкалагічнага захворвання ці гангрэнозную нагу, якая падлягае ампутацыі. Наогул жа вельмі многія хваробы паддаюцца лячэнню ў нашым цэнтры.

**— Можна пацікавіцца, у якой форме вы яго праводзіце? Прабачце, але лячэнне ў знахара ў мяне асацыіруецца з замовамі, травянымі настоямі...**

— Сваім пытаннем вы напомнілі аднаго майго сябра, дарэчы, выдатнага ўрача. Звычайна ён гаворыць: «Калі хвораму дапамагае назіранне за зялёнай жабай, пасадзі яе ў акварыум і пастаў у палаце. Няхай глядзіць на яе суткамі!»

А калі сур'ёзна, то ў рабоце нярэдка карыстаюся малітвамі, замовамі, мантрамі. Упэўнены: у іх не пусты набор гукаў. Вельмі многія нясуць у сабе ярка адлюстраваны псіхатэрапеўтычны эфект, а ў некаторых выпадках можна гаварыць і аб сур'ёзным лячэбным эфекце.

Але замовы — толькі невялікая часцінка складанага працэсу лячэння. Пачынаем яго з падрыхтоўчага перыяду. Сюды ўваходзяць удакладненне дыягназу і ачышчэнне энергетычных каналаў арганізма, дыета, масаж і інш.

Другі этап — псіхалагічная перабудова свядомасці хворага — кадзіраванне. Звычайна яно праводзіцца толькі са згоды пацыента. Уздзеянне робіцца для таго, каб ён не змог парушыць правілы лячэння, не нанёс шкоды свайму арганізму да той пары, пакуль не наступіць выздараўленне. На гэтай стадыі лячэння выкарыстоўваем такія тэхнікі, як сугестыя, гіпноз, псіхатэрапія, тыя ж народныя замовы, заклінанні.

На трэцім этапе ідзе дапаможнае лячэнне. Для кожнага хворага індывідуальна падбіраем комплекс лячэбных мер з некалькіх нетрадыцыйных метадаў уздзеяння на арганізм — біяэнергетыкі, акупунктуры, рэфлексатэрапіі, сугестыі, псіхатэрапіі і г. д. У цяжкіх выпадках не адмаўляемся і ад традыцыйнай медыцыны. У цэнтры побач са спецыялістамі-нетрадыцыйнікамі працуюць высокакваліфікаваныя ўрачы.

**— Цікава. І вы не разыходзіцеся ў прынцыпах і метадах лячэння?**

— Іншы раз у цэнтр прыходзяць людзі, якім патрэбна неадкладная дапамога, напрыклад, тэрміновая хірургічная аперацыя. І тут не да высвятлення адносінаў. Людзей трэба лячыць, і кожны павінен рабіць гэта ўсімі даступнымі яму сродкамі.

**— Ведаю, што вы праводзіце кадзіраванне адразу некалькіх пацыентаў. Ці не здаецца вам, што тут неабходна індывідуальная работа з кожным?**

— Сапраўды, мы распрацавалі метад сугестыйнай тэрапіі, які дазваляе настройваць на выздараўленне адразу вялікую колькасць хворых. Прымяняю гэту методыку, калі няма магчымасці працаваць з кожным пацыентам асобна. Але сеансы праводжу ў адносна невялікіх залах, з абавязковым кантролем за станам людзей, якія падвергліся ўздзеянню. У такіх выпадках лічу неабходным правесці некалькі сустрэч запар.

Індывідуальная работа з пацыентам магчыма толькі ў час праходжання ім поўнага курса лячэння ў нашым цэнтры.

**— Калі хтосьці з чытачоў захоча звярнуцца за дапамогай, як вас знайсці?**

— Калі ласка, у Оршы, на тэрыторыі чыгуначнай бальніцы, у Цэнтры нетрадыцыйнай медыцыны. Тэлефон 9-20-39.

**— Кожны дзень дзесяткі людзей са сваімі праблемамі, хваробамі... Уладзімір Георгіевіч, ці не здаецца вам, што са сваімі здольнасцямі вы змаглі б знайсці сабе менш клапатлівы занятак?**

— Магчыма, і так. Ад маёй работы сапраўды іншы раз хочацца збегчы кудысьці далёка на некалькі сутак. Але гэта хутка праходзіць, і мяне зноў цягне да яе. Ведаеце, у кожнага чалавека ёсць свой крыж, які ён нясе па жыцці.

**Наталля СЦЕПЯНКОВА.**

АСТРАНАМІЧНЫ КАЛЯНДАР

# ШАЛІ

Нагадаем, што слова «задыяк» перакладаецца з грэчаскай як «круг жывёл». І сапраўды, дванаццаць (а не адзінаццаць, як сцвярджаюць астролагі) сузор'яў носяць назвы жывых істот. Выключэннем з'яўляюцца толькі Шалі. У гэтым задыякальным сузор'і наша Сонца будзе знаходзіцца з 31 кастрычніка па 21 лістапада.

Астраномы сцвярджаюць, што раней Шалі былі часткай сузор'я Дзевы (таму Дзеву звычайна і малююць на зорных картах з шалямі ў руках) ці Скарпіёна. А таму зноў жа не выпадкова, што назвы самых яркіх зорак Шаляў у перакладзе з арабскай азначаюць «паўднёвая клюшня» і «паўночная клюшня».

Уласную ж назву гэтая невялікая група зорак, падобна, атрымала ў той час, калі ў іх знаходзіўся пункт асенняга раўнадзенства. «Сузор'е гэта пастаўлена старажытнымі на небе для паказання раўнадзенства дзён і ночаў, тады як Сонца ў тагачасны час у гэтым сузор'і знаходзілася»,— пісаў аўтар аднаго з першых рускіх зорных атласаў К. Рэйсінг.

З'яўленне Шаляў на небасхіле ўказвала старажытным, што настаў час выводзіць у поле сваіх рабочых валоў і сеяць азімыя. А вось жыхары Перу называлі гэтую групу зорак «Вясёлкай», «Маланкай» ці «Нябеснай ракой», таму што, калі ў гэтым сузор'і знаходзілася Сонца, часта ішлі моцныя дажджы.

І яшчэ адна цікавая гістарычная падрабязнасць. Менавіта ў Шалях blішчэла «хвастатая зорка»— — камета, якая з'явілася на небе ў год смерці Юлія Цэзара і лічылася яго душой, што ўзносіцца на неба. А адшукаць гэтае сузор'е лягчэй за ўсё ў канцы мая — пачатку чэрвеня.

**Уладзімір ЛАРЫЁНАЎ, астраном.**

# УГОН

Дзверы прыадчыніліся, і ў пілоцкую кабіну зазірнуў ствол кулямёта. Памаячыў некалькі, аглядваючы экіпаж і як бы цікавячыся: «Прабачце, а хто тут за старшага?»

— Куды ляцець?» — спытаў камандзір.

— Налева, шэф, праз дзве граніцы, у пустыню, — папрасіў традыцыйна няголены ўгоншчык, які з'явіўся ўслед за кулямётам. — Хутчэй, інакш страляю.

— Страляй, гад, — мне ўсё роўна назад дарогі няма! — сказаў другі пілот. — Я дачцэ абяцаў з першага ўгону «Панасонік» прывезці, а табе ў пустыню!..

— Ну хоць у Арабскія Эміраты! — папрасіў бортінжынер.

— Гэта яшчэ на які эмірат нарвешся, — заўважыў камандзір. — Прызямляемся — а там «Панасонікі» толькі па прапісцы, а камп'ютэры — па талонах.

Сцюардэса заплакала, уздрыгваючы худзенькімі плячамі.

— Госпадзі, ну чаму я такая няшчасная! Адзін раз угналі, і то...

— ...дваццаць чатыры... дваццаць пяць... — манатонна лічыў няголены кулямётчык, — ...усё, ужо страляю,.. дваццаць шэсць... дваццаць сем...

Дзверы тузанулі.

— Дазвольце...

— Нарада! — адрэзаў камандзір.

— Ну, што, куды ляцець?

Бортінжынер з асцярожнай фамільярнасцю папляпаў кулямёт па ствале.

— Таварыш тэрарыст... Як бы вам растлумачыць... Я з дзяцінства марыў убачыць Пізанскую вежу. Я стары бортінжынер, невыязны, я дваццаць пяць гадоў лятаю на лініі «Кубыцінск — Укушанск», у сына першы ўзнос у кааператыў, у жонкі радыкуліт...

— А ў Пізе «Панасонікі» ёсць? — насцярожана спытаў другі пілот.

У сцюардэсы імгненна высахлі слёзы.

— Ёсць, ёсць! Мне казалі, што Піза набітая «Панасонікамі»! Там у кожнага беспрацоўнага па «Панасоніку»! Па два!

Дзверы тузанулі.

— Дазвольце!

— Сказана — нарада! — адрэзаў штурман. Зачыніў дзверы і ўсміхнуўся:

— А кажуць, што ў Грэцыі зноў хітоны ў моду ўваходзяць. Можа, праверым, а? У мяне, дарэчы, у школе пяцёрка была па Старажытнай Грэцыі... Можа, махнём?

У густой цішыні з гулам упала зброя забойства.

— Знайшлі сабе шасцёрку— развозіць вас па заграніцах! Ганіце парашут, касмапаліты, я застаюся!

Другі пілот нахіліўся і згроб тэрарыста за разарваную сарочку.

— Узяўся ўганяць — дык уганяй!

Хлопца ў момант паставілі на ногі. Уручылі кулямёт.

— А ты пра іншых падумаў?!

— Мы толькі паглядзім —і назад!

— Патрэбны нам іхнія каменныя джунглі!

— І сацыяльная няроўнасць!

— І беспрацоўе працоўных!

— Не будзь эгаістам, стары! Уганяй у Афіны!

— Праз Парыж!

— Пізу!

Дзверы расчыніліся.

— Нарада! — гаркнуў экіпаж.

— Хопіць нарад! Хопіць вырашаць за народ, куды яму ляцець! Мітынг двух салонаў пастанавіў: падпарадкоўваемся насіллю і ляцім у Японію!..

Сцюардэса ахнула:

— А мы здзіўляліся: звычайны рэйс на Кубыцінск, а білеты расхапалі яшчэ месяц назад...

Пад вечар у стэпах Забайкалля стомлена апусціўся на поле самалёт. Калі лайнер спыніўся, з пілоцкай кабіны выглянуў сівы лётчык, і ўцякаўшыя камбайнеры пачулі:

— Чорт, за ўсімі спрэчкамі забыліся пра паліва! Братцы, выручайце! Сакура адцвітае— можам не паспець!

Але самую высокую свядомасць праявіў просты савецкі аўтапілот. Апоўначы самалёт з экіпажам, тэрарыстам, пасажырамі і камбайнерамі прызямліўся ў аэрапорце горада Кубыцінска.

**Аляксей ДЭКЕЛЬБАЎМ.**
**«Магазин».**

# ФРАЗЫ

- — Там добра прыродзе, дзе нас няма.
- — Калі браканьер знайшоў месца, дзе водзіцца шмат дзічыны, значыць, ён тут яшчэ не быў.
- — З назіранняў эколага: «Чым больш трактатаў, тым менш вусеняў».
- — Назваўшы ваўка санітарам лесу, чалавек стварыў у лесе антысанітарныя ўмовы.
- — Там, дзе хаваюць галаву ў пясок, узнікаюць пустыні.
- — Чырвоная кніга — гэта першае выданне, выдадзенае за кошт аўтараў.
- — Плакат у магазіне па продажу бумерангаў: «Тавар вяртанню не падлягае».

## Крыўда шафёра Алёхі

**Мяне папярэджвалі строга:**
**— Не пі ў рэйсе**
**Гарэлкі, Алёха!**
**Так і рабіў я, вядома.**
**Не піў у дарозе, а дома.**
**Мне казалі:**
**— Не пі за рулём!**
**І я за рулём — ні грама...**
**А ўсё за агульным сталом,**
**І зрэдку — на лаўцы ля**
**крамы....**
**Трымаўся слушных парад.**
**А сягоння судом**
**Мяне судзяць.**
**Трымаўся,**
**А вінават...**
**Падвялі мяне моцна**
**Эх, людзі!..**

**Фёдар ЛАПАНІК.**

# «ПЫТАЛЬНІК-2»: «МУЖЧЫНЫ І ЖАНЧЫНЫ»

***

**— Муж мне не верыць, але я працягваю сцвярджаць, што жанчына можа зрабіць мужчыну мільянерам. Ці ж не праўда?**

**Элачка-людаедка**

— Канешне. Жанчына можа зрабіць мужчыну мільянерам. Аднак толькі ў адным выпадку — калі ён мільярдэр.

***

**— Можа вы ведаеце, чаму жанчыны жывуць даўжэй за мужчын?**

**Мужчына**

— Гэтаму ёсць навуковае тлумачэнне. Уся справа ў тым, што жанчыны ні на хвіліну не перастаюць клапаціцца аб здароўі мужчын.

***

**— Заўсёды пры сустрэчы з жанчынамі думаю: якім чынам вызначыць іх сапраўдны ўзрост.**

**Ф. Лавеласаў.**

— Гэта даволі проста. Вазьміце палавіну таго ўзросту, які яна сама сабе дае і дабаўце палавіну ўзросту, які яна дае сваёй лепшай сяброўцы, і вы атрымаеце дакладны ўзрост гэтай жанчыны.

***

**— Адкажыце, калі ласка, ці бываюць у жанчын недахопы?**

**Жанчына**

— Удакладняем: толькі ў мужчын бываюць недахопы, а ў жанчын гэта называецца слабасцямі.

# СМЕХАТЭРАПІЯ

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), А. ЦІХАНОВІЧ, С. ШАЎЦОЎ.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь,
калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда».
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў — 32-04-52, 32-41-92, навін —32-60-13, даведкі па рэкламе і аб'явах —32-35-91.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Тыраж 81.098. Індэкс 63.850.
Зак. № 221.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 21.00.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12